*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 8 (643) 25 ЛЮТАГА 2004 г.

# ПАСЛАННЕ

## Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь

**Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь**
**Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**
**Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**

... Праблемы канстытуцыйнай законнасці аналізаваліся Канстытуцыйным Судом і пры разглядзе пытання аб рэалізацыі на практыцы канстытуцыйнага права грамадзян на карыстанне роднай мовай. У прыватнасці, на забеспячэнне роўнага выкарыстання дзяржаўных моў было накіравана рашэнне Канстытуцыйнага Суда ад 4 снежня 2003 г. Канстытуцыйны Суд устанавіў, што ў сферы абслугоўвання абарачэння банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання пры фармальна-юрыдычным раўнапраўі дзяржаўных моў на практыцы баланс іх выкарыстання не захоўваецца. Таму Канстытуцыйны Суд палічыў неабходным звярнуцца ў Парламент з прапановай аб унясенні ў Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і іншыя акты заканадаўства адпаведных змяненняў і дапаўненняў, здольных забяспечыць фактычную роўнасць у выкарыстанні дзяржаўных моў...

### *Каментар.*

*Прыведзены тэкст - вытрымка з Паслання Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад 6 лютага 2004 г. Упершыню ў дакумент такога ўзроўню ўключаны пытанні нераўнапраўнага становішча беларускай мовы ў беларускай дзяржаве і беларускім грамадстве.*

*Канкрэтна ў Пасланні закранаюцца дзве сферы, дзе баланс выкарыстання дзяржаўных моў не захоўваецца. Гэта сфера абслугоўвання абарачэння банкаўскіх пластыкавых картак і сістэма дзяржаўнага сацыяльнага страхавання. Аднак у многіх ранейшых дакументах Канстытуцыйны Суд адзначаў і іншыя сферы, дзе адбываецца грубая дыскрымінацыя беларускай мовы. Таму не дзіўна, што першай адрэагавала на Пасланне Беларуская чыгунка. Кіраўніцтва чыгункі на мінулым тыдні звярнулася ў ТБМ з просьбай дапамагчы з перакладам на беларускую мову дакументацыі па арганізацыі працы на чыгунцы.*

*Таварыства ахвотна ўзялося за справу. Частка дакументацыі перакладзена і ўжо адпраўлена на чыгунку, частка накіравана ў Інстытут мовазнаўства НАН Беларусі (тая, што тычыцца беларускіх назваў чыгуначных станцый).*

*Трэба спадзявацца, што і астатнія суб'екты права не праігнаруюць Пасланне Канстытуцыйнага Суда краіны.*

# Створаны бюст Васіля Быкава



Менскі скульптар **Уладзімір Мелехаў** стварыў рабочую мадэль бюста Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Вышыня бюста 35 см. Плануецца адліўка бюста з гэтай мадэлі, а таксама адліўка з мадэлі павялічанай у 2 - 4 разы. Адліўкі маюць быць зробленымі да 80-годдзя Вялікага Беларуса. Пакуль што бюст знаходзіцца ў прыватным музеі А. Белага ў Старых Дарогах. Пра музейную экспазіцыю ў гонар В. Быкава ў Старых Дарогах чытайце на ст. 8.

## Не замаўчаць!

Новы год без Цябе
Беларусь сустракала
Ўпершыню за святочным
Сталом сіратой.
У нашых сэрцах
Удзячнасці слова гучала
За вялікае шчасце
Жыць разам з Табой.
Сёння рознага кшталту
Смярдзючыя гады
Беларуссю гандлююць,
Імкнуцца прадаць.
Ганьбяць Творцу цудоўнай
"Альпійскай балады",
І я нечысьці гэтай
Павінен сказаць:
Рукі прэч! Не кранайце
Наш ветразь да Волі.
Ён наш компас да праўды,
Людской дабрыні
І яго вам, паганцы,
Не ўдасца ніколі
Замаўчаць і зняважыць
У моры хлусні!

***Фелікс Шкірманкоў,***
*Слаўгарад,*
*9 студзеня 2004 г.*
*ветэран*
*Вялікай Айчыннай вайны*

# Шчырае слова да старэйшага сябра



26 лютага Мікалаю Аляксандравічу Мельнікаву з Горадні – 80 гадоў. З гэтай нагоды хачу павіншаваць шаноўнага юбіляра з паважаным узростам і выказаць шчырыя словы падзякі. Гэты няўрымслівы ініцыятыўны чалавек мае адну цудоўную рысу – вучыць грамадскай дзейнасці на карысць Беларусі.

Памятаю, як у 1996 годзе Мікалай Аляксандравіч прыехаў у Слонім, каб пазнаёміцца з настаўніцай Трафімчык, якая напісала артыкул у абарону роднай мовы для "Настаўніцкай газеты". Так адбылося наша першае знаёмства. Даведаўшыся, што я ўзначальваю Слонімскую суполку Таварыства роднай мовы, Мікола Аляксандравіч часцей пачаў прыязджаць да нас. Я адчувала, што яму, былому выкладчыку, кандыдату філалагічных навук, былому загадчыку кафедры Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта, не ўсё падабалася ў маіх паводзінах. Так, наша арганізацыя бяздзейнічала, бо мне не хапала ні досведу, ні глыбокіх перакананняў, якія б штурхалі да дзеянняў на карысць роднай мовы. Я хварэла на грамадскую пасіўнасць (хвароба многіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі). Да сябе тоій, ранейшай, я магу зараз аднесці словы Т. Шаўчэнкі:

***Страшна ўпасці ў кайданы,***
***Паміраць у няволі,***
***Яшчэ горай – спаці, спаці***
***І спаці на волі.***

Мікола Аляксандравіч паступова і мудра "варушыў" сон нашай суполкі. Я прыглядалася да гэтага чалавека і пераймала, наколькі гэта патрэбна было мне, рысы барацьбіта ад старэйшага аднадумца. І адбылося дзіва! Я заўважыла, як мне раней не хапала грамадзянскай актыўнасці, як нецікава я жыла, адданая толькі настаўніцкай працы.

Мікола Аляксандравіч Мельнікаў праз усё жыццё пранёс у сваім сэрцы ўспаміны аб тым, як у далёкія трыццатыя гады іх сям'ю з Чавускага раёна на Магілёўшчыне высылалі ў Сібір. Душа балела ад людской несправядлівасці, думаў, што ўжо ніколі не будзе верыць у дабрыню людскую. Але гэтая пакута, вынесеная з дзіцячых гадоў, навучыла бескампраміснай барацьбе з подласцю, падманам, бесчалавечнасцю. Мікола Аляксандравіч нецярпімы да ўсялякіх праяў людской подласці. Яму ёсць справа да ўсяго: старшыня Гарадзенскай арганізацыі ветэранаў вайны нацыянальнага кірунку, ён піша ліст у падтрымку Васіля Быкава, Нацыянальнага ліцэя, звароты ў абарону роднай мовы. Свае артыкулы дасылае ў рэспубліканскі друк, найчасцей у "Народную волю".

Шчыры і верны сябар, Мікалай Аляксандравіч Мельнікаў піша ў "Народную волю" артыкул аб трагічным лёсе санінструктара Ані Супруненка, якая ваявала з ім у партызанскім аддзеле, адкуль была расстраляна партызанамі з-за памылковага падазрэння. І цяпер слёзы на вачах у ветэрана вайны таму, што не змог дапамагчы гэтай прыгожай, але нешчаслівай дзяўчыне.

Ад гэтага цудоўнага чалавека сыходзіць святло, якое дае надзею і ўпэўненасць у тым, што не памерла на нашай беларускай зямлі самаахвярная адданасць Радзіме роднай мове, сябрам, справе. Гэты Чалавек шчыра служыць таму, што любіць.

А любіць Мікола Аляксандравіч Мельнікаў справядлівасць і хоча, каб яна панавала на Бацькаўшчыне, дзе чалавек мог бы горда і з упэўненасцю сказаць: "Я сумленна жыву на той зямлі, якой адданы да астатку".

Шчасця ж Вам, здароўя, здзяйснення Вашых высокіх мараў, шаноўна старэйшы сябар!

***Старшыня Слонімскай***
***суполкі ТБМ***
***Таццяна Трафімчык.***





# Каму патрэбны Валянцін Таўлай.?!

### (Да 90-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта Валянціна Таўлая)

*Талент не трэба падштурхоўваць ззаду*
*І не трэба цягнуць за руку.*
*Ён сам знаходзіць сабе шлях*
*І сам аказваецца наперадзе ўсіх.*
*Расул Гамзатаў.*

Некалькі разоў на плошчы Леніна горада Баранавічы і на вуліцы Брэсцкай, дзе жыву, проста так апытваў людзей, хто такі Валянцін Таўлай? Як аказалася, мала хто ведаў паэта Таўлая і той факт, што ён нарадзіўся ў слаўным месцы Баранавічы.

Калі адкрыеш адрыўны каляндар "Родны край. 2004", дык сапраўды ўсумнішся, што паэт прыйшоў у свет з нашай мясціны, бо тамака падаецца іншы населены пункт. Пра юбілей Валянціна Таўлая не знайшоў таксама аніволнай звесткі на гарадскіх дошках і слупах аб'яў. Чыноўнікі горада і раёна прыцхілі перад вялікай датай беларускага Змагара за свабоду і беларускасць. Нідзе, нават на цэнтральнай плошчы, нічога, што згадвала б пра паэта: няма аніякай стужкі, аніякай ганаровай дошкі, аніякай іншай інфармацыі.

Толькі руплівцы беларускай справы ведалі і ўсё рабілі, каб абудзіць горад вялікім прыходам 90 гадоў таму знанага нашага ўраджэнца. Найперш, гэта супрацоўнікі Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Валянціна Таўлая (у гэтым годзе споўнілася 25 гадоў, як яна носіць пачэснае імя), стваральнікі народнага музея імя Валянціна Таўлая ў СШ № 4, а таксама сябры Баранавіцкай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Вось гэтая працалюбая трыяда і зрабіла Вялікія Дні Паэта.

**Першы дзень**

*... і гатоў гарэць, загінуць*
*за вясну маёй краіны.*
*Валянцін Таўлай*
*"Напрадвесні"*

Супрацоўнікі Баранавіцкай Цэнтральнай бібліятэкі з асаблівай пяшчотай і любоўю адносяцца да творчасці слаўнага паэта і падышлі да гэтага юбілею надзвычай сур'ёзна і адказна. І той, хто неяк раптам зазірнуў 5 лютага 2003 года ў чытальную залу ці краязнаўчы аддзел галоўнай бібліятэкі горада, дык адразу ж заўважыў экспазіцыі, выставы, прысвечаныя 90-м угодкам з дня народзінаў паэта Валянціна Таўлая. Мала таго, аддзел бібліятэчнага маркетынгу распрацаваў спецыяльную анкету да юбілея паэта (ініцыятары Наталля Урублеўская і Алена Камарова). Мне ж надта спадабалася выстава "Яго напеваў слаўны лёс" (стваральніца Ірына Дрэкоўская). А найбольш уразіла праца бібліятэчных працаўніц па стварэнні кніжнай закладкі, якая цалкам прысвечана юбілею Валянціна Таўлая.



*На імпрэзе, прысвечанай 90-годдзю Валянціна Таўлая выступае Міхась Маліноўскі*

Такім чынам 5 лютага 2004 года ў памяшканні ЦГБ адбылася святочная імпрэза, прысвечаная 90-м угодкам Валянціна Таўлая. Рэй у гонар паэта Валянціна вяла, як заўсёды, зіхатлівая, прыгожая і руплівая загадчыца чытальнай залы спадарыня Валянціна Лапато. Ей дапамагалі ўвішныя бібліятэчныя працаўніцы Ірына Пабярэжная і Алена Рыбак, якія сакавіта, з глыбокім веданнем сваёй справы, расказалі аб жыцці партызанскай, антыфашысцкай, творчай і музейнай дзейнасці Валянціна Таўлая.



*Народны музей імя В. Таўлая ў СШ № 4 г. Баранавічы*

Падчас імпрэзы вершы паэта надзвычай эмацыйна чытаў Міхась Стрыжоў. А брэйн-рынг правёў старшыня гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны Віктар Сырыца. З яго вуснаў у залу ляцелі пытанні, на якія адразу ж ускідваліся пачаргова рукі дзвюх каманд Баранавіцкага эканоміка-юрыдычнага каледжа. У інтэлектуальнай гульні ўдзельнічалі каманда юнакоў і дзяўчат, якія найбольш былі падрыхтаваны па беларускай літаратуры. З невялікім перавагам перамаглі дзяўчаты, якія атрымалі сваю салодкую ўзнагароду. Не былі пакінуты прызамі, увагай і хлопцы. Правадзейны сябра геаграфічнага таварыства, вядомы краязнаўца Міхась Маліноўскі ўручыў асабістыя ўзнагароды ўдзельнікам брэйн – рынга і засяродзіў увагу усіх прысутных на маладаследаваных пытаннях у творчасці Таўлая.

Мясцовыя паэты Браніслава Лапкоўская, Алесь Корнеў, Раіса Раманчук узялі чынны ўдзел у гэтым мерапрыемстве і з натхненнем чыталі свае прысвячэнні Валянціну Таўлаю.

Зоркай музыкі і песень паўстала перад усімі бескарыслівая, непараўнальная кампазітарка і спявачка Галіна Ярашэвіч, якая асабліва ярка ўпрыгожыла юбілейны Дзень В. Таўлая і на яе песнях скончылася гэтае незабыўнае відовішча.

**Другі дзень**

*Бо я заўзята і даўно*
*Пілую вершам краты...*
*Валянцін Таўлай*
*"Лукішскія вершы"*

6 лютага 2003 года дзея перамясцілася ў сярэднюю школу № 4, у яе народны музей імя В. Таўлая. Гэты дзень быў азмрочаны штотыднёвікам "Літаратура і мастацтва", які аніводнага свайго радка не прысвяціў вялікаму ўраджэнцу Баранавічаў, слыннаму сыну Беларусі, самабытнаму паэту В.Таўлаю, пра якога Уладзімір Калеснік пісаў: *"У цэнтры ўвагі паэта лёс беларускага народа, прага свабоды, нацыянальнага адраджэння і сацыяльнай справядлівасці, гераічная трагедыйнасць вызваленчага руху, выяўленая ў ліра-эпічных вобразах яго ўдзельнікаў".*

На святочнай вечарыне выступілі ўсе запрошаныя. Вельмі цікава і змястоўна гаварыў даследчык таўлаеўскай творчасці пісьменнік Анатоль Клышка, які быў шчодра адораны гарачымі апладысментамі ўсіх прысутных. Ён ім расказаў пра творчую спадчыну паэта якая пабачыла свет толькі пасля смерці Таўлая ("Выбранае"-1947, "Выбраныя творы"-1951, "Вершы і паэмы"-1955). Даследчык таўлаеўскай паэзіі апавядаў пра яго цяжкі жыццёвы шлях, пра шчырую беларускасць і адданасць улюбёнай справе. На гэтай імпрэзе ўрачыста ганаравалі Алену Пятроўну Яхант, якая запаліла непагасную паходню ў гонар паэта В.Таўлая, стварыўшы з аднадумцамі зіхатлівы музей у яго гонар, які ўжо пяць гадоў носіць ганаровую назву народнага.

У гэты дзень са сцэны гучалі песні, таўлаеўскія вершы, публіцыстыка ў выкананні вучняў СШ № 4. Асабліва ўсім спадабалася вучнёўская сцэнка пра тое, як Валянцін Таўлай змагаўся за правы вучыцца на роднай мове .



*На імпрэзе, прысвечанай 90-годдзю Валянціна Таўлая выступае Анатоль Клышка*

А ў суботу, 7 лютага 2004 г., пабачыла свет беларуская газета "Звязда", у якой працаваў калісьці паэт В.Таўлай. Я меркаваў, што на першай старонцы пабачу матэрыял, як супрацоўнікі гэтай газеты ўшаноўваюць памяць свайго калегі, але колькі не гартаў, не знайшоў нават паведамлення, што "звяздоўцы" сабраліся, рушылі на Менскія Вайсковыя могілкі і ўсклалі кветкі на магілу былога свайго паплечніка.

**Трэці дзень**

*...я вершы пад ззянне*
*бліскавіц*
*запісваю ў памяць.*
*Валянцін Таўлай.*

8 лютага – дзень нарадзінаў В. Таўлая. Разам з тым адразу ж адзначу, што аніводны гарадскі "вертыкальшчык", а найперш, чынавенства з культуры, адукацыі, інфармацыі не прыйшлі на заключны дзень тыдня паэта, у тым ліку і першыя асобы горада.

Шмат чаго дадалі супрацоўнікі ў аздабленне сваёй бібліятэкі, кожны ахвотны мог узяць яе дарунак – кніжную закладку, прысвечаную В.Таўлаю, якая была зроблена ў некалькіх афарбоўках.

Усе наведвальнікі адзначылі новы лагатып ЦГБ, распрацаваны Уладзімірам Гундарам – таленавітым чалавекам, які сапраўды ўдала валодае мастацкім дарам графікі.А ўвасобіў яго працу ў жыццё мастак Сяргей Сяргейчык.

У заключны дзень пра Таўлая – паэта ўзрушана і хваляўніча гаварылі: Валянціна Лапато, Ірына Дрэкоўская, Алена Барзілава, Жанна Панамарова, а таксама Ніна Шавель – цяперашняя загадчыца музея імя Валянціна Таўлая.

Вось так у нас прайшлі таўлаеўскія дні. А зрабіць па ўшанаванні памяці Валянціна Таўлая яшчэ трэба вельмі шмат. Дасюль ён не з'яўляецца ганаровым грамадзянінам нашага горада, няма помніка паэту. Дасюль не вызначана дзе ж, у якім месцы горада нарадзіўся Таўлай, дзе жылі яго жонка і дачка. Аніразу дэлегацыі горада не ўшанавалі сваёй прысутнасцю магілу В.Таўлая і яго бацькоў. У гарадскім краязнаўчым музеі і яго выставачнай зале аніразу не рабіліся спецыяльныя экспазіцыі ў гонар Валянціна Таўлая.

Я яшчэ мог бы напісаць шмат таго, чаго ў нас няма альбо не зроблена ў гонар В. Таўлая. Аднак колькі нашым чыноўнікам не гавары, не прапануй, як у той прымаўцы пра халву: саладзей ў роце не стане. Таму хачу скончыць свой нарыс вершам Валянціна Таўлая "Таварышу маёй вясны":

*Будзе песня звінець*
*жаўруком,*
*пралятаючы далеч,*
*да цябе даляціць –*
*ты хоць раз*
*сірату прытулі...*
*Цёплай, сейбіцкай жменяй*
*мы шчыра жыццё раскідалі,*
*каб вясна расцвіла*
*для людзей*
*і на гэтай пакутнай зямлі.*

Дык каму патрэбны Валянцін Таўлай? Найперш нам, каб ведаць яго патрыятычную творчасць, вучыцца змаганню за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны, за правы гаварыць і вучыцца на роднай мове.

*Міхась Маліноўскі.*



*Падчас імпрэзы, прысвечанай 90-годдзю Валянціна Таўлая ў ЦБ г. Баранавічы*

# МАЛЕНЬКАЯ НЕДАКЛАДНАСЦЬ

З цікавасцю прачытаў у "Нашым слове" за 21.1.04 артыкул прафесара А.П. Грыцкевіча "Як ішло змаганне з фальсіфікацыяй гісторыі ў 80-я гады XX ст."

Асноўнае месца ў названай публікацыі займае тээісны пераказ даўняга артыкула А. Грыцкевіча "Карані і кветкі дагматызму" (зб."З гісторыяй на Вы", Мн., 1991), у якім абвяргаліся апублікаваныя ў 1948 годзе "Тэзісы ў асноўных пытаннях гісторыі БССР". Тыя псеўданавуковыя тэзісы былі ўхвалены ў ЦК КПБ і таму, слушна зазначае прафесар Грыцкевіч, рэкамендаваліся ўсім гісторыкам Беларусі як абавязковыя. Праўда, абавязковымі для ўсіх яны не былі. Помню, як яшчэ ў сярэдзіне 60-х на канферэнцыі ў АН БССР, у вялікай акадэмічнай зале, некаторыя канцэптуальныя палажэнні "Тэзісаў" у пух і прах разбіваў – з уласцівай яму гарачнасцю – М. І. Ермаловіч.

Але я пішу гэту рэпліку з іншага повада. У артыкуле шаноўнага калегі апавядаецца аб тым, як тры аўтары – А. І. Мальдзіс, В. П. Грыцкевіч і А. П. Грыцкевіч – апублікавалі ў часопісе "Советское славяноведение" (1988, № 3) артыкул "Няўжо "забароненая зона"?" і якія былі наступствы. Цытую Анатоля Пятровіча: "Аўтары абверглі сцвярджэнні дактароў навук з інстытута гісторыі З. Ю. Капыскага і В. І. Мялешкі, якія ў артыкуле "Фактам насуперак" (у газеце "Советская Белоруссия" 1987, 28 ліпеня) "далі адпор" гэтым тром "аўтарам-нацыяналістам" і па сутнасці сцвярджалі, што быццам бы ўсё, напісанае гісторыкамі Беларусі па феадальным перыядзе, знаходзіцца на добрым узроўні і застаецца зонай па-за крытыкай".

Ведаючы акуратнасць Анатоля Пятровіча ў абыходжанні з фактамі, мушу тым не менш запярэчыць шаноўнаму прафесару: артыкул В. Мялешкі і З. Капыскага "Фактам вопреки" ("Советская Белоруссия" за 28.7.1987 г.) цалкам, ад пачатку да канца, ёсць "адпор" не тром, а аднаму "нацыяналісту" – тагачаснаму першаму сакратару праўлення СП БССР Нілу Гілевічу, які ў сваім дакладзе на Пленуме Саюза пісьменнікаў (2.6.1987) даў рэзка негатыўную ацэнку сучаснаму стану гістарычнай навукі ў Беларусі. (Даклад называўся "Сацыяльна-маральныя праблемы ў жыцці і літаратуры" і быў апублікаваны тады ж у тыднёвіку "ЛіМ", 12.6.1987) Акадэмічныя гісторыкі былі моцна абураны і разгневаны. Асабліва вось гэтымі радкамі даклада: *"Галоўная наша бяда ў тым, што беларускія вучоныя-гісторыкі ў большасці сваёй усё яшчэ сядзяць пад каўпаком абэцэдарычыны і баяцца выткнуць з-пад гэтага каўпака галаву. Спадзявацца на іх дапамогу нам, пісьменніка, на вялікі жаль, пакуль што не прыходзіцца. Трэба самім церабіць сцежкі да гістарычных фактаў і адкрываць іх народу. (...) У нас у Беларусі нядобрыя сілы стараюцца нашу гістарычную памяць усыпіць. Вядома, песенькай: люлі-люлі, баю-бай. Ну, а калі песенька не памагала, і ў нянькі канчалася цярпенне, тады і злосным вокрыкам: "Спі, а то дам! Спі, кажу табе!.."*

*Але гістарычная памяць народа – не дзіцятка, яна спаць не можа і не павінна. І яе трэба не ўсыпляць, а будзіць. Без гістарычнай самасвядомасці цяжка вырашаць усе іншыя жыццёва важныя для нацыі і нацыянальнай культуры пытанні."*

Тут мела значэнне і тое, што гэта было не шараговае выступленне пісьменніка ў спрэчках, а даклад афіцыйнай асобы – першага сакратара Праўлення СП, і не абы-дзе, а на Пленуме. Таму і паявіўся артыкул-водпаведзь В. Мялешкі і З. Капыскага ў органе ЦК КПБ "Советская Белоруссия". Вось яго пачатак: *"В докладе первого секретаря правления Союза писателей Белоруссии Н. С. Гилевича "Социальные и моральные проблемы в жизни и литературе", с которым он выступил на пленуме СП БССР в июне нынешнего года, сделан странный выпад в адрес белорусской советской исторической науки и ученых-историков. (...) По их вине, якобы, населению почти не известна история Белоруссии до начала XX века. Докладчик, по сути дела, обвинил всю белорусскую историческую науку в "абецедарщине"*. Далей бярэцца пад абарону імя і навуковая спадчына гісторыка Л. Абэцэдарскага, пералічваюцца і ацэньваюцца яго каштоўныя навуковыя працы, у прыватнасці, яго даследванні пра "стремление народных масс Белоруссии к воссоединению с Россией". *"Навешивать на всё научное наследие ученого придуманный Н. С. Гилевичем ярлык "абецедарщины" просто негоже"*.

Далей, а гэта тры чвэрці артыкула, расказваецца – у абвяржэнне "выпаду" Н. Г. пра поспехі гістарычнай навукі ў БССР, пералічваюцца фундаментальныя шматтомныя выданні і манаграфіі, у тым ліку па гісторыі рабочага класа Беларусі (чатырохтомнік), па гісторыі беларускіх гарадоў, пра класавую сутнасць Вялікага Княства Літоўскага і інш. Але нідзе ў артыкуле-водпаведзі В. Мялешкі і З. Капыскага не згадваюцца ні імёны, ні апублікаваныя працы "трох нацыяналістаў" – А. І. Мальдзіса, В. П. Грыцкевіча і А. П. Грыцкевіча, няма ні радка ў адрас іх навуковых поглядаў, канцэпцый, пазіцый, у чым лёгка пераканаецца кожны, хто возьме і разгорне газету "Советская Белоруссия" за 28.7.1987 г.

Хачу думаць, што гэтыя (В. Мялешка і З. Капыскі) або іншыя гісторыкі "далі адпор тром нацыяналістам" – аўтарам артыкула "Няўжо "забароненая зона"? – у нейкай іншай публікацыі. І, вядома ж, у больш позняй, бо артыкул "Няўжо "забароненая зона"?", які нібыта прынялі ў штыкі акадэмічныя гісторыкі, паявіўся ў друку ў сакавіку 1988 года, а артыкул "Фактам вопреки" – у ліпені 1987-га.

Як ні шкада, але шаноўнага Анатоля Пятровіча падвяла памяць.

*Ніл Гілевіч,*
*заслужаны дзеяч навукі, прафесар.*

# Да паняцця "родная мова"

Шырока вядомы нам выраз ***"родная мова"*** не з'яўляецца навуковым тэрмінам. Ён, напрыклад, не ўваходзіць у тэрміналагічны паказчык Лінгвістычнага энцыклапедычнага слоўніка выдавецтва "Савецкая энцыклапедыя" 1990 года. У лінгвадыдактыцы, таксама, як і ў агульным моваведстве, шырока карыстаюцца тэрмінам ***"першая мова"***. Зразумела, аднак, што значэнне гэтых двух выразаў можа не супадаць. Няма чаго казаць і пра розніцу ў эмацыйных зместах абодвух.

У вышэйназваным слоўніку няма і выразу ***"матчына мова"***, хоць сустракаецца тэрмін ***"матчына гаворка"*** – гаворка мясцовасці, адкуль перасялілася пэўная група насельніцтва.

У псіхалогіі маўлення і псіхалінгвістыцы існуе тэрмін ***"дамінантная мова"***. Дамінантнай называецца тая мова полілінгва (чалавека, які валодае больш чымсці адной мовай), словы якой непасрэдна звязаны з паняццямі. Спрасціўшы, можна сказаць, што гэта тая мова, на якой чалавек думае (Ёсць і навукоўцы, якія лічаць, што працэс думкі працякае зусім без пасярэдку словаў і мовы наагул). Трэба адзначыць, што большасць даследчыкаў не лічыць магчымым для чалавека аднолькава адвольна здзяйсняць думчыя аперацыі на некалькіх мовах. Пэўныя выключэнні для іх толькі пацвярджаюць агульнае правіла.

У звязку з гэтым насцярожваюць даследванні пэўных беларускіх псіхолагаў і педагогаў, напрыклад, Н. С. Старжынскай і Н. А. Налівайкі. Яны паказваюць, што вучні не ўмеюць выказваць думкі па-беларуску, агулам іх працэс думкі на мове не развіты. Гэта найчасцей вядзе не да ўсведамлення неабходнасці больш руплівай вучобы, а да варожасці да мовы.

Катэгорыі ***"роднасць"*** альбо ***"варожасць"*** да мовы можна аб'яднаць у шырэйшым паняцці адносінаў да мовы. Гэтыя адносіны надзвычай важныя. Яны ўплываюць на якасць успрыняцця матар'ялу на пэўнай мове, на жаданне яе ўвогуле вывучаць. Спецыяліст па навучанні замежным мовам Б. Спольскі падзяляе адносіны на адносіны да носьбітаў мовы і на адносіны да перспектываў карыстаня мовай. Да паняцця адносінаў можна далучыць катэгорыю ***"лаяльнасці да мовы"***, якую прапанаваў вядомы даследчык моўных кантактаў У. Вайнрайх. Згодна яму, лаяльнасць да мовы – гэта становішча, пры якім не родная для чалавека мова займае высокае месца ў ягонай шкале каштоўнасцяў, карыстаецца ў яго належнай пашанай, абараняецца ім.

Цікавае даследванне праве́ў Г. І. Ваўчок на выбарцы студэнтаў педагагічнага каледжа (нажаль, на занадта малой – 24 чалавекі). Ім было прапанавана адказаць, што асабіста для іх значыць паняцце "родная мова". Прыводзім вынікі апытання:

25% - матчына мова;

21% - мова беларускага народа;

16,6% - нацыянальны скарб беларускага народа;

33% - мова, на якой размаўляем;

4,4% - мова, на якой павінен размаўляць сапраўдны патрыёт.

Той жа выбарцы прапанавалі адказаць, ці размаўляюць яны і іх бацькі па-беларуску:

50% - не размаўляюць;

21% - не заўсёды размаўляюць;

21% - размаўляюць;

8% - размаўляюць не на чыстай беларускай мове.

Натуральна, што ў даследванні ёсць метадалагічныя хібы, напрыклад, другое пытанне трэба было паставіць больш дакладна, або разбіць на некалькі падпытанняў. Гэты доследу, аднак, можа стаць нагодай для ўсіх цікаўных, напрыклад, педагогаў, правесці даследванні такога кшталту ўжо са сваімі вучнямі.

"Роднасць" мовы падаецца катэгорыяй асабістай і асобаснай, то бок сам чалавек ці, прынамсі, ягоны асабісты лёс вызначаюць, родная яму пэўная мова ці не. Ёсць, аднак, і факты, якія сведчаць аб магчымай прыроджанасці мовы што да пэўнага чалавека або народа. Адразу зазначым, што факты гэтыя супярэчаць традыцыйнай і агулам пераканаўчай навуковай плыні, якая разглядае мову як катэгорыю сацыяльную. Тым не менш, аўтарытэтны білінгвіст Э. Ленэберг прыводзіць у сваёй кнізе "Біялагічны падмурак мовы" гіпотэзу, згодна якой, фанетычныя схільнасці могуць быць закладзены генетычна. Знакаміты філосаф і псіхолаг Вільгельм Вундт у кнізе "Псіхалогія мовы" выказвае меркаванне, маўляў, розным народам у падобных геаграфічных умовах уласцівыя падобныя гукі. Адсюль можна зрабіць выснову аб геаграфічнай дэтэрмінаванасці, прынамсі, фанетычнага ладу мовы.

Як бы там ні было, якую б мову ні лічылі першай ці роднай мы, грамадзяне Беларусі, беларуская мова – гэта тое, што можа ўз'яднаць усіх нас. Таму ды не паўторым мы памылак ранейшых хрысціянаў, якія здолелі падзяліць адзіную спрыва рэлігію. Слова ***родны*** аднакарэннае са словам ***Радзіма***. Таму кожны, чыя Радзіма – Беларусь, мусіць ставіцца да нашай мовы як да роднай.

*Дзяніс Тушынскі,*
*магістр псіхалагічных навук.*

# Вось парадны пад'езд... школьны

Да чаго ніякавата і крыўдна робіцца, калі ў дызель-цягніку ці прыгарадным аўтобусе пачуеш, як да загаварыўшага па-беларуску чалавека сусед па лаўцы пытаецца: "Вы наверно учитель?", альбо – як адною ці два "Вы часом не историк, что говорите побелорусcку?". І патыхае ад гэтых запытаў гэткай дрымучай недасведчанасцю людзей, якія з часоў савецкай эпохі ўсё яшчэ лічаць настаўнікаў апошнімі ахоўнікамі роднай мовы. На самай справе, у чым не раз пераконваўся, у гарадскіх школах яны размаўляюць паміж сабою, у сваіх сем'ях выключна па-расейску, так званая "трасянка" сярод іх – рэдкасць. І не дзіва, што тапаніміка на школьных будынках таксама мала чым адрозніваецца ад расейшчыны часоў Мураўёва-вешальніка, які пасля задушэння паўстання Кастуся Каліноўскага сказаў: "Что не успели сделать русские штыки, то доделают русские учителя". І распарадзіўся, каб у "Северо-западный край", як пры ім пачне звацца Беларусь, прыслалі 1600 настаўнікаў, якія сталі весці ўрокі ў школах на адзінай мове – расейскай. І так было да 1907 году. Вось свежы прыклад гэткага нізкапаклонства да расейскіх моўных традыцый. Над уваходам адной з сярэдніх школ, з боку вуліцы, ржа вочы плакат-шыльда, на якой яркачырвонымі аршыннымі літарамі напісана запрашэнне "Добро пожаловать!" Але ж у беларусаў ёсць сваё, болей мілагучнае і цёплае – " Сардэчна запрашаем", або "Ласкава просім да нас". Чаму ж дырэктар школы, беларус, забыў іх?

Званю яму па тэлефоне ў школу, выказваю сваё здзіўленне і крыўду – як сябар рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. А ён мне зачытвае ў адказ дакумент, дасланы сёлета ў школы з Міністэрства адукацыі, у якім гучыць гэткая чыноўніцкая "ўказіўка": "Афармленне памяшканняў, кабінетаў, класаў, усю дакументацыю неабходна весці на той мове, на якой вядзецца выкладанне ў класах". А яно ўжо другі год вядзецца толькі на расейскай мове, беларускай адвездзена тры гадзіны на тыдні – як "прадмету". Спрабую пераканаць дырэктара, што шыльду – запрашэнне над галоўным уваходам у будынак варта ўсё ж замяніць на "нашаскую" без аглядкі на чыноўніцкую "ўказіўку". Пара ўжо нам усім займець і шанаваць свой нацыянальны гонар! Ён чутна, разумее мяне, абяцае (ужо нейкая надзея на змены), што пасля чаканага рамонту фасаду будынка школы шыльду-запрашэнне можна будзе памяняць. Таму і не называю ягонага прозвішча – магчыма, чалавек стрымае слова.

Праз дні два заглянуў да гарадской гімназіі, былой СШ № 1, адкрытай яшчэ у 1617 годзе, тады яна была бадай першай школай на Беларусі. Статус гімназіі афіцыйна ёй далі зусім нядаўна. Што ж я ўбачыў на бетонным "казырку" пры ўваходзе ў будынак гімназіі? Вочы мае застылі ў здзіўленні ад размашыстай, выпісанай вялікімі сінімі літарамі на незразумелай мове шыльды. На ангельскую і нямецкую яна не "змахвала". Пытаюся ў першага сустрэчнага вучня, які выходзіў з будынка, што тут напісана? Ён паціснуў плячыма і пайшоў сваёй дарогай. Так зрабіў і другі вучань, крыху старэйшы за гэтага. І толькі трэці, прыпыніўшы крок, сказаў: "Видимо, это звучит как "добро пожаловать", а написано на латинском языке".

Дырэктар Ларыса Васільеўна на маё запытанне аб мэтазгоднасці вітання вучняў гімназіі на незразумелай для большасці з іх мове, адказала, што яе тут уключылі ў праграму, вывучаюць факультатыўна, у іх ёсць нават выкладчыца лаціны з вышэйшай адукацыяй. А замест шыльды, патлумачыла яна, гучыць так: "Не для школы, а для жизни мы учимся". Не надта мудра, але ж – добра было б, каб побач, ці зверху лаціны было вывешана наша беларускае запрашэнне. Ларыса Васільеўна пагадзілася са мною і запэўніла, што прадумае маю прапанову і магчыма ўнясе дапаўненне ў тапаніміку. Каб хоць пры ўваходзе ў гімназію нешта напамінала дзецям, хто яны, і адкуль пайшлі іх нацыянальныя карані, бо трох гадзін на тыдні, адведзеных на беларускую мову, для гэтага мала...

*Мікола Кутнявецкі,*
*г. Слуцк.*

# "Ніва" ў гасцях у "Нашага слова"

***З 1 студзеня 2004 года галоўным рэдактарам газеты беларусаў Польшчы "Ніва", якая выходзіць у Беластоку прызначаны Яўген Вапа. 12 лютага Яўген Вапа наведаў Беларусь і спецыяльна прыехаў у Ліду ў рэдакцыю газеты "Наша слова", каб абмеркаваць вынікі захадаў дзвюх рэдакцый па рэгістрацыі дадатка да газеты "Наша слова" пад назвай "Ніва Падлесся", які павінен быў фармавацца з матэрыялаў "Нівы". 15 студзеня Міністэрства інфармацыі ў чарговы раз адмовіла ў рэгістрацыі гэтага дадатка і вярнула дакументы. У выніку перамоваў была выпрацавана пазіцыя, паводле якой захады па рэгістрацыі "Нівы Падлесся" будуць прадоўжаны, разам з тым будуць шукацца спосабы распаўсюджання ў Беларусі ўжо самой газеты "Ніва".***

***Пад час візіту спадар Яўген быў ласкавы адказаць на некалькі пытанняў рэдактара "Нашага слова" Станіслава Судніка.***

***- З 1 студзеня ў "Нівы" новы галоўны рэдактар. Якія перадумовы спрычыніліся да гэтага?***

- З 1 студзеня 2004 года я з'яўляюся галоўным рэдактарам тыднёвіка беларусаў Польшчы "Ніва" і адначасна старшынём Праграмнай рады тыднёвіка "Ніва", якая з'яўляецца выдаўцом газеты. Да гэтай пары гэта былі раздзельныя функцыі. Быў старшыня Праграмнай рады і асобна галоўны рэдактар. Старшынём Праграмнай рады быў прафесар Яўген Мірановіч, вядомы гісторык, аўтар кніжак па найноўшай гісторыі Беларусі, а галоўным рэдактарам быў спадар Віталь Луба. З той прычыны, што прафесар Яўген Мірановіч мае зараз шмат абавязкаў, як навуковец, а сёння такі час, што ўзнікае ўсё больш патрабаванняў да адміністрацыйнай працы, трэба пісаць паперы, запаўняць штодзённа нейкія дакументы, і Праграмная рада вырашыла аб'яднаць гэтыя дзве функцыі, каб штодзённа займацца і справамі выдання і справамі рэдакцыі.

У сувязі з тым, што я быў намеснікам старшыні Праграмнай рады, і калі прафесар Мірановіч склаў свае абавязкі, ён, натуральна, запрапанаваў мяне ў якасці свайго пераемніка і адначасна прапануючы на пасаду галоўнага рэдактара. І так здарылася гэта. Маім намеснікам, як галоўнага рэдактара, ёсць спадар Віталь Луба. У сувязі з тым, што мая пасада вымагае шмат раз'ездаў, то падчас ад'езду старшыні Праграмнай рады Віталь Луба вядзе газету, як галоўны рэдактар.

***- Прыйшоў новы рэдактар. Што зменіцца ў канцэпцыі газеты, ці ўсё цалкам застанецца, як было?***

- Калі я па поглядах кансерватар, то мне добра вядома, што газету вельмі лёгка разбурыць, а стварыць газету зусім іншая справа. Газета "Ніва" выходзіць з 1956 года, і праз два гады будзе юбілей, 50-годдзе газеты. Гэта на беларускай прасторы ўвогуле ўсёй газета, якая мае зараз 50 гадоў і выходзіць па-за межамі Беларусі. І вельмі важна захаваць гэтыя традыцыі і спалучыць з сучаснасцю. І таму мы зрабілі зараз анкетаванне, дзе нам чытачы выказвалі свае меркаванні, мы іх улічвалі, дыскутавалі, і тое, што мы маем з пачатку лютага, ёсць ужо вынік апытання нашых чатачоў, што іх цікавіць, што ёсць патрэбнае.

Па-першае, тое што зрабілі ёсць такое тэхнічнае ўпарадкаванне. Мы сыходзім з таго становішча што зараз чалавек усюды спяшаецца, ён не мае часу чытаць генеральна. Ён чалавек вельмі моцна заняты. Вядома газета – гэта не электронныя сродкі масавай інфармацыі. Яна зусім іншай рэччу павінна быць, нечым адрозніваціца ад электронных СМІ. І таму мы вырашылі зрабіць дзве рэчы: па-першае, гэта поўная такая ясная прыпарадкаванасць дзялянак, звязаных з тэмамі. Усе ведаюць, што на 2-й старонцы будуць фельетоны, на 3-й рэпартаж, 8-я – 9-я – гэта ёсць гісторыя, літаратура культура. І тое, што для нас вельмі важнае: калі чалавек чытае "Ніву", то ён чакае нечага іншага акрамя інфармаванасці пра штодзённае жыццё беларусаў у Польшчы ці голае жыццё ў самой Беларусі ды іншых краінах. І мы вырашылі, што павінны звяртаць больш увагі на такія рэчы, як рэпартаж, аналіз, пасля якіх у чалавека нейкая рэфлексія застанецца. Не тое, што проста інфармацыя, якую ты прачытаеш і тут жа забываешся, такую інфармацыю можна атрымаць і ў іншых газетах, і па радыё, тэлебачынні. Для нас вельмі важна, каб у нашага чытача, у беларускага чытача была гэтая рэфлексія, наконт беларускасці, наконт штодзённасці. Гэта тыя рэчы на якія мы ў рэдакцыі хочам моцна звяртаць увагу.

***- Традыцыйна "Ніва" ўспрымаецца ў Беларусі, як газета, якая пазбягае вострай крытыкі беларускіх уладаў, асабліва безпадстаўнай крытыкі. І беларускія ўлады пра гэта ведаюць. Разам з тым вы мелі шэраг непрыемнасцяў на мытны. У чым тут справа?***

- "Ніва", думаю, ёсць тая газета, якая праз нашых публіцыстаў рэальна апісвае свет і беларускую меншасць у Польшчы, і рэальна апісвае падзеі ў Беларусі, і гэта ёсць прынцып журналістыкі. І мы стараемся да рэальнага апісання. Разам з тым газета дае магчымасць глянуць на гэтую рэальнасць з розных пазіцый.

Наконт таго, што "Ніва" мае і мела сталых чытачоў у Беларусі. Да 80-га года дзве тысячы "Нівы" па падпісцы трапляла ў Беларусь. Гэта вялікая колькасць. На самой Гарадзеншчыне было звыш 500 падпісчыкаў. Плюс таго, што "Ніва" прадавалася і ў кіёсках. І гэта відаць таму, што ў "Ніве" ў 60-я, 70-я гады друкаваліся такія матэрыялы, па гісторыі Беларусі, якія не маглі пабачыць святла ў самой Беларусі.

Гэта істотны факт, як і тое што друкаваліся творы паэтаў, празаікаў, якія ў той час таксама не маглі быць друкаваныя ў Беларусі. Тут вельмі важным ёсць адчуванне адзінай духовай прасторы для нас, адзінай духовай беларускай прасторы. І мы хочам гэтага далей трымацца. Нягледзячы на тое, што мы з'яўляемся грамадзянамі Польшчы, што мы ёсць карэннымі жыхарамі гэтай краіны, мы таксама хочам паказваць нашу прысутнасць у духовым кантэксце беларускасці. Гэта тое, што для нас вельмі важнае.



Яўген Вапа і Станіслаў Суднік

***- "Наша слова" і "Ніва" друкуюцца "наркамаўкай", афіцыйным правапісам у Рэспубліцы Беларусь. Правапіс "Нашага слова" вызначыў у свой час з'езд ТБМ. А што абумовіла выбар "Нівы"?***

- Па-першае мы ёсць нацыянальнай меншасцю, беларускай нацыянальнай меншасцю і меншасць заўсёды рэалізуецца тым, чым рэалізуецца большасць, метраполія. Мы на Беласточчыне маем навучанне беларускай мове. Яшчэ сёння, на шчасце, 4000 беларускіх дзетак вучацца беларускай мове. Яны вучацца згодна з тым правапісам і той граматыкай, якія ўжываюцца ў Беларусі. Калі нашы вучні карыстаюцца "Нівай", "Зоркай" (у нас у "Ніве" ёсць укладыш для дзяцей і моладзі "Зорка", якая вядзе вялізарную працу з дзецьмі), то з пункту гледжання меншасці, у школе яны вучацца аднаму, тут будуць бачыць іншае. Гэта праста згубнае разыходжанне. Іншы правапіс дазваляюць сабе літаратурныя часопісы. "Ніва" ж трымаецца правапісу, які ёсць у агульным беларускім свеце, у Беларусі. Мова змяняецца. Будзе змяняцца правапіс у Беларусі і мы будзем да гэтага дастасоўвацца. Сёння "Ніва" паслугоўваецца тым правапісам, якім паслугоўваецца адукацыйная сістэма ў Беларусі і тут на Беласточчыне. І для нас гэта вельмі важна.

***- Сёння беларус у Беларусі не можа падпісацца на "Ніву"?***

- Так "Нівы" няма ў каталогу.

***- А ў якіх краінах можна.***

- На "Ніву" можна падпісацца ў Варшаве. Падпісацца можна, практычна ў любой краіне цераз міжнародныя агенствы прэсы.

Для нас, як для рэдакцыі вельмі важна аднаўленне традыцыі, што "Ніва" ёсць у Беларусі. Мы атрымоўваем, шмат лістоў, прыязджае шмат людзей. "Ніву" хочуць мець бібліятэкі, навучальныя ўстановы. Яны проста не маюць грошай на падпіску, бо ў прынцыпе можна падпісацца непасрэдна ў рэдакцыі і мы маглі б высылаць газету, але гэта выходзіць значна даражэй. Гэта справа вельмі важная і цяжкая, каб "Ніва" з'явілася ў Беларусі, але будзем старацца. Магчыма разам нешта ўдасца.

***- Шчыры дзякуй, спадар Яўген.***

# ЗВАРОТ

## ДА ВЫКЛАДЧЫКАЎ ВЫШЭЙШЫХ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСІ

***Агульны сход Гарадзенскага гарадскога грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай вышэйшай школы", заклапочаны станам беларускай мовы і беларускамоўнай адукацыі ў краіне прыняў зварот да выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў наступнага зместу:***

"З 1995 года ў нашай краіне - Рэспубліцы Беларусьзноў выцясняецца беларуская мова з адукацыйнай сферы. Так, у Гродна ў 1994-1995 гг. да 75% першакласнікаў пачыналі вучыцца па-беларуску, а сёння іх 0 . Летась быў зачынены Нацыянальны гуманітарны ліцэй у Мінску – прэстыжная навучальная ўстанова, у якой выкладанне вялося поўнасцю на беларускай мове. У ВНУ спынена афіцыйная падтрымка выкладчыкаў, якія жадалі б выкладаць па-беларуску, а ў некаторых выпадкахназіраецца адміністаныйны ціск на іх.

Сёння нацыянальная мова беларусаў таксама выдаляецца з інфармацыйнай прасторы, з адміністратыўных органаў, іншых сфер. Мінская адміністрацыя пазбаўляе рэспубліканскую арганізацыю ТБМ арандаванага памяшкання.

Між тым агульнавядома, што мова разам з іншымі нацыянальнымі каштоўнасцямі (гісторыяй уласнага народа, нацыянальнымі традыцыямі і фальклорам, нацыянальным светапоглядам і сімваламі, іншымі праявамі нацыянальнай культуры) мае ключавое значэнне ў арганізацыі агульнаграмадскага жыцця. Гэтыя фактары – і мова сярод іх найважнейшы – ёсць аснова для таго, каб кожны грамадздянін, які жыве на зямлі сваіх продкаў, пачуваўся яе паўнавартасным гаспадаром. Дадзеныя каштоўнасці ствараюць сістэму міжасобавых сувязяў, у якой адбываецца яднанне ўсіх грамадзян краіны ў цэласную супольнасць.

І пачуццё гаспадара сваёй зямлі, і нябачная атмасфера культурных сувязяў у грамадстве не дазваляюць прадстаўнікам улады стаць па-над ім, з'яўляюцца ключавымі ўмовамі кантролю над уладай і станаўлення сапраўды дэмакратычнай сістэмы ў краіне. Грамадства, аб'яднаннае сукупнасцю нацыянальных каштоўнасцяў, прымушае дзяржаўных кіраўнікоў рэалізоўваць менавіта яго аб'ектыўныя інтарэсы. У выніку ствараюцца ўмовы, калі кожны грамадзянін паасобку і ўсё грамадства ў цэлым набываюць магчымасці максімальнага раскрыцця ўласнага патэнцыялу, а з'яднанае, цэласнае грамадства, у сваю чаргу, становіцца надзейнай апорай дэмакратычнай улады. Вось чаму ва ўсіх краінах – і вакол Беларусі, і далёка ад яе – пытанне нацыянальнай мовы (як толькі слабеў імперскі ціск звонку) заўсёды вырашалася кардынальна і на яе карысць.

Усё гэта азначае, што вяртанне беларускай мове адпаведнага ёй статусу ёсць толькі пытанне часу. Гэта – няўхільны імператыў, адмаўляць які могуць толькі недалёкія людзі альбо тыя, хто, разбураючы і дэмаралізуючы наша грамадства, разлічваюць абараніць свой соцыяпаразітычны інтарэс...

Сённяшні ж стан беларускай мовы ў нашым грамадстве ў цэлым і ў адукацыйнай сістэме ў прыватнасці – дадатковы доказ неадпаведнасці ўмоў жыцця беларускага грамадства сучасным цывілізацыйным нормам.

Ключавое значэнне для паспяховай беларусізацыі ўсёй сістэмы адукацыі мела і будзе мець роля нашай мовы ў вышэйшых навучальных установах. Зараз у трох універсітэтах Гродна ёсць каля трыццаці выкладчыкаў (не ўлічваючы выкладчыкаў беларусазнаўчых кафедраў), якія працуюць па-беларуску. Як паказвае досвед, наша мова ва ўсіх выпадках з'яўляецца выдатнай прыладай для забеспячэння высокага ўзроўню выкладання. Прыемна, што патрыятычныя памкненні беларускамоўных выкладчыкаў сустракаюцца з выразнай прыхільнасцю пераважнай большасці студэнтаў. Наша моладзь дастаткова добра ўсведамляе здначэнне высокаўзроўневых грамадскіх каштоўнасцяў...

**Заклікаем** выкладчыкаў усіх ВНУ Беларусі актыўней выкарыстоўваць нашу мову ва ўсіх формах практычнай выкладчыцкай і навуковай дзейнасці.

Чытайце лекцыі і вядзіце заняткі па-беларуску!

Пішыце навучальныя і метадычныя дапаможнідкі планы і справаздачы па-беларуску!

Афармляйце дысертацыі на беларускай мове!

Не абавязкова пераходзіць на нашу мову адразу і ў поўным аб'ёму. Зрабіце за год хоць бы крок: падрыхтуйце адну лекцыю, напішыце адзін метадычны дапаможнік правядзіце частку заняткаў па-беларуску – і вы ўжо зробіце вялікі ўнёсак у нашу агульную справу.

А ў наступным годзе зрабіце чарговыя 2-3 крокі. І так далей..."





# Кіраўнікі паўстання 1863-64 гадоў у Літве і Беларусі

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Менская губерня (Менскае ваяводства)**

| Прозвішча і імя кіраўніка | Гады жыцця, месца нараджэння і смерці | Пасада |
|---|---|---|
| Аскерка Міхаіл Андрэевіч | 1836, г. Менск – 28.04.(10.05). 1864, г. Магілёў | ваяводскі камісар (з траўня да 10.09.1863 г.) |
| Яленскі Антон Паўлавіч | 05.07.1818, м.Капаткевічы – 1874 | кіраўнік паўстання ў Менскім ваяводстве |
| Чакатоўскі Пятро | 1832-1882 | паўстанцкі начальнік г. Менска (да кастрычніка 1863 г.) |
| Трусаў Антон Данілавіч | 15.(27.)05.1835, г.Барысаў – каля 1886 | кіраўнік паўстання ў Менску, камандзір аддзела |
| Дабравольскі Міхаіл Міхайлавіч | каля 1834 - ? | памочнік начальніка г. Менска |
| Чакатоўскі Пятро | 1832 – 1882 | паўстанцкі начальнік г. Менска (да кастрычніка 1863 г.) |
| Свентаржэцкі Баляслаў Часлававіч | 1831, маёнтак Багушэвічы Ігуменскага пав., цяпер Бярэзінскі р-н – 1888 | ваяводскі камісар (да восені 1863 г.) |
| Кашыц Канстанцін | 1828 ці каля 1822 – 1881 | паўстанцкі цывільны начальнік Навагрудскага павета |
| Ямант Юзаф (Іосіф) Мацвеевіч | 1841 - ? | ваяводскі камісар (з кастрычніка 1863 г.) |
| Ляскоўскі Станіслаў Вікенцьевіч (Вільгельм, псеўданім Собак) | 09.(21).1840, Менскі пав. – пасля 1870 | камандзір паўстанцкага атрада ў Ігуменскім павеце, паўстанцкі вайсковы начальнік Менскага ваяводства |
| Міладоўскі Вітольд Феафілавіч | 1837(?), Навагрудскі пав. - ? | камандзір паўстанцкага аддзела ў Навагрудскім павеце |
| Борзабагаты Уладзіслаў Канстанцінавіч | 23.04(05.05).1831, маёнтак Рутка Навагрудскага павета – 28.03.1886, м. Любяшова Пінскага павета, цяпер Валынскай вобл., Украіна | камісар Навагрудскага павета |
| Машэўскі Уладзіслаў | ? – 21.04.(03.05.).1863, в. Азярцы Ігуменскага пав. | вайсковы начальнік Слуцкага павета, камандзір аддзела |
| Дыбоўскі П. | ? - ? | вайсковы начальнік Менскага павета, камандзір аддзела (да жніўня 1863 г.) |
| Свентарэцкі Апалінар | 1830-я?, маёнтак Вялікія Крывічы каля Ракава -? | камандзір атрада ў Менскім павеце |
| Шалевіч Карл | ? - ? | камандзір аддзела ў Навагрудскім павеце |
| Пуслоўскі Адам | ? - ? | камандзір аддзела ў Навагрудскім павеце |

**Ковенская губерня (Ковенскае ваяводства)**

| Прозвішча і імя кіраўніка | Гады жыцця, месца нараджэння і смерці | Пасада |
|---|---|---|
| Серакоўскі Зыгмунт (Сігізмунт Іванавіч, псеўданім Даленга) | 30.05.1826, с. Лісавое Луцкага пав. Валынскай губ., цяпер Маневіцкі р-н - 27.06. 1863, г. Вільня | вайсковы начальнік паўстання ў Літве (са снежня 1862 г.), вайсковы начальнік ваяводства (сакавік, красавік 1863 г.) |
| Длускі Баляслаў (Баляслаў Раман) Францавіч (псеўданім Ябланоўскі) | 19.06.1826, Віленскі пав. – 10.05.1905 | вайсковы начальнік ваяводства (да лета 1863 г.) |
| Мацкявічус Антанас (Мацкевіч Антоні) | 26.06.1828, в. Маркяй Шаўляйскага пав., Літва – 28.12.1863, г. Коўня | вайсковы начальнік ваяводства (з лістапада 1863 г.) |
| Міцкевіч Юліян Бенядзіктавіч (псеўданім Рымвід) | каля 1837 – 1864 | камісар ваяводства |
| Дзічкоўскі Людвік | каля 1831 - ? | паўстанцкі цывільны начальнік ваяводства (да 30.11.1863 г.) |
| Ляскоўскі Вікенці | ? - ? | вайсковы начальнік ваяводства |
| Калышка Баляслаў Вікенцевіч | 26.07.(07.08).1837, фальварак Карманішкі Лідскага пав., цяпер Эйшышскі р-н, Літва- 28.05(09.06).1863, Вільня | камандзір Дубіскага палка (сакавік, красавік 1863 г.) |
| Чарвінскі Павел (псеўданім Сава) | 1841 – 1864 | камандзір аддзела |
| Далеўскі Канстанцін | 1837, фальварак Кункулка Лідскага пав. – 1871, г. Парыж | камандзір паўстанцкага аддзела |
| Люткевіч Элізы | 1825 – 1863 | камандзір аддзела |

**Магілёўская губерня (Магілёўскае ваяводства)**

| Прозвішча і імя кіраўніка | Гады жыцця, месца нараджэння і смерці | Пасада |
|---|---|---|
| Аскерка Міхаіл Андрэвіч | 1836, г. Менск – 28.04.(10.05).1864, г.Магілёў | камісар Магілёўскага ваяводства (з 1862 г. да траўня 1863 г.) |
| Звяждоўскі Людвік Міхайлавіч (псеўданім Тапор) | снежань 1829, г.Вільня – 27.02.1864, г. Алатаў | вайсковы начальнік Магілёўскага ваяводства |
| Віскоўскі Станіслаў Іванавіч | 12.02.1839 – пасля 1879, г. Варшава | паўстанцкі начальнік м. Горы-Горкі |
| Будзіловіч (псеўданім Каткоў, Ян Піховіч) Ігнат Мартынавіч | 1841, Валынская губ. – 28.08.(09.09).1863, г. Орша | камандзір паўстанцкага аддзела ў Аршанскім павеце |
| Грыневіч Тамаш Міхайлавіч* | 1815 – 16.(28).07.1863, г. Рагачоў | камандзір Рагачоўскага паўстанцкага аддзела (красавік 1863 г.), штаб-ротмістр |
| Жаброўскі Канстанцін Абрамавіч (псеўданімы Костка, Навіцкі) | 1838, Аўгустоўская губ. – 24.06.(06.06).1863 г.Барысаў | камандзір аддзела ў Сенненскім павеце |
| Жукоўскі Ян Алаіз Восіпавіч (псеўданім Каса) | 1832 - ? | камандзір Крычаўскага (Чэрыкаўскага) аддзела |
| Алендскі Антон Варфаламеевіч | каля 1843, Люблінская губ. – 30.03(11.04)1864, Менск | камандзір Чарнаруцкага (Магілёўскага) паўстанцкага аддзела |
| Анцыпа (Анцыпа-Чыкунскі) Ільдафонс Дзяменцевіч | 1815?, в. Мілавань, каля Горадні – 06.(18).06.1863 | камандзір аддзела паўстанцаў у Быхаўскім павеце |
| Корсак Уладзімір Антонавіч | 22.04.(04.05).1838, Магілёўская губ.- 06(18).06. 1863. Магілёў | падпаручнік Чарнаруцкага палка (з красавіка 1863 г.) |
| Манцэвіч Міхаіл Аляксандравіч | 19.06.(01.07). 1840, Магілёўская губ.-06.(18).06. 1863, Магілёў | прапаршчык Чарнаруцкага палка (з красавіка 1863г.) |
| Манцэвіч Іван Аляксандравіч (Ян Алаіз) | 21.07.(02.08).1841, Магілёўская губ.- 06.(18).06. 1863, Магілёў | прапаршчык Чарнаруцкага палка (з красавіка 1863 г.) |

**Віцебская губерня (Віцебскае ваяводства)**

| Прозвішча і імя кіраўніка | Гады жыцця, месца нараджэння і смерці | Пасада |
|---|---|---|
| Вярыга-Дарэўскі Арцём Ігнатавіч (літ. псеўданім Беларуская Дуда) | 23.10.(04.11).1816, м. Кублічы Лепельскага пав., цяпер Ушацкі р-н – 1884 | арганізатар узброенага выступлення на Віцебшчыне |
| Грабніцкі Отан Мікалаевіч | 28.02.(12.03).1829, маёнтак Арэхаўна Лепельскага пав. – 07.(19).01.1865. г. Екацерынбург | камандзір паўстанцкага аддзела ў Лепельскім павеце |
| Кульчыцкі Баляслаў (Яўстах Баляслаў) Францавіч | 20.09.(02.10).1842, Аўгустоўская губ. – 30.04.(12.05). 1863 | камандзір аддзела ў межах Себежскага і Дрысенскага паветаў |
| Бутніцкі Зыгмунт | ? - ? | паўстанцкі вайсковы начальнік Інфлянцкага ваяводства |
| Плятар Лявон | ? - ? | камандзір аддзела паўстанцаў у Дзвінскім (Дынабургскім) павеце |
| Солтан Уладзіслаў | 1824-1900 | камісар або цывільны начальнік Інфлянцкага ваяводства |
| Кучэўскі А. | ?- 07(19).05.1863, в. Падбярэззе, цяпер Барысаўскага р-на | камандзір паўстанцкага аддзела ў Лепельскім павеце (в. Валосавічы) |

** Т. М. Грыневіч стаў прататыпам Усяслава Грынкевіча ў рамане У. Караткевіча "Нельга забыць".*

**Ад рэдакцыі.**

Прыведзены спіс змяшчае не толькі прозвішчы вядомых кіраўнікоў паўстання. Ён змяшчае іх пасады, па ім можна адсачыць і рух некаторых асобаў па службовай лесвіцы паўстання, а таксама ў многіх выпадках месца нараджэння і смерці паўстанцаў. І далёка не ва ўсіх гэтых месцах стаяць помнікі, вісяць мемарыяльныя дошкі. Далёка не ўсюды іх імёнамі названы вуліцы, школы, бібліятэкі. Таму гэты спіс - яшчэ і генеральная мэта дзейнасці краязнаўчых і патрыятычных арганізацый па ўсёй Беларусі. Бо калі ўсім гэтым героям у Беларусі будуць пастаўлены помнікі, тады гэта будзе ўжо зусім іншая краіна.

Акрамя кіраўнікоў паўстання па ўсёй Беларусі ў мясцовых краязнаўчых арганізацыях, музеях, бібліятэках вядомы дзесяткі імёнаў шараговых удзельнікаў паўстання, ксяндзоў, якія чыталі маніфест паўстання, служылі капеланамі ў паўстанцкіх аддзелах, тых, хто быў арыштаваны, сасланы, пакараны смерцю, у каго былі секвестраваныя маёнткі. Таму на павестцы дня даўно стаіць пытанне складання як мага больш моўнага Спісу паўстанцаў 1863 года. І тут у нас сітуацыя, як з апошнім жаўнерам апошняй вайны. Пакуль гэты жаўнер не пахаваны, вайна не можа лічыцца закончанай. Так і з паўстаннем. Пакуль не будзе апублікаванае апошняе імя апошняга паўстанца, мы не можам лічыць паўстанне 1863 года закончаным.





## ЗА МЕЖАМІ ЗВЫКЛАЙ БУДЗЁННАСЦІ

"Нскаторыя з нас нават у развагах не вольныя". Такое меркаванне выказаў аўтар кнігі прозы "Неспадзяваныя сустрэчы" Алесь Лягенчанка ў прадмоўным слове "Да чытача". Я, чытач яго першай літаратурнай неспадзяванкі (дагэтуль ведаў А. Лягенчанку як журналіста) згодны з апавядальнікам часта мы "баімя выйсці з кола звыклай будзённасці". Бо якраз там і можна адчуць водбліскі творчага жыцця.

Усцешна, што творца стараецца пераадолець супрацiў хуткаплыннага часу. Ён пайшоў на выпрабаванне: выказаў праз местацкае слова свае надзённыя развагі.

З журналіста нараджаецца празаік. Чытаю кнігу "Неспадзяваныя сустрэчы" - і адчуваю гэтыя родавыя схваткі. Таму ў празаіка і "здараюцца выпадкі", у прадкаў "праблемы", героі мініяцюр (карацелек) "прапануюць новыя рашэнні"... Навошта ў літаратурным тэксце "апрацоўваць ніву", калі можна араць, узорваць, уздымаць, зябліць, гнаць баразну?

Тут не віна аўтара ці рэдактуры, а хутчэй за ўсё бяда нашых пісьменнікаў: браць слова спрыхаду, тое, што на слыху. А гэта можа быць калька з рускай мовы, канцылярская павітуха. Ды і трасянка-чаўпня – ці не з кожных вуснаў вылятае. Таму ў многіх і герої прамаўляюць таксама каструбавата, без жывінкі.

Ужыўшы цытату з тэксту А. Лягенчанкі, "па непрадказальным збегу акалічнасцяў" і ў яго кнізе прозы многа нашага агульнага моўнага смецця. І мае крытычныя заўвагі не для таго, каб схібіць працу аўтара. Наадварот, хачу адзначыць яго важны грамадзянскі ўчынак: у мітусні дзён ён не схаваўся ад самога сябе, ад той нашай нацыянальнай звыкласці, прыстасаванасці да ўмоў побыту, калі ад надзённых турботаў прыкрываюца спрадвечнай "памяркоўнасцю" суайчыннікаў, "талерантнасцю" апраўданцаў духоўнай кволасці.

Калі ўжо здарылася так, што ў Рэспубліцы Беларусь узаконены дзве дзяржаўныя мовы, то ў звзку з аўтарам згаданай кнігі адбылася яшчэ адна неспадзяваная сустрэча – сустрэча на старонках, так бы мовіць, галіновага выдання. Алесь Лягенчанка сёння галоўны рэдактар часопіса "Служба ўратавання 01" ("Служба спанення 01"). Гэга спецыялізаваны, выдатна ілюстраваны часопіс Грамадскага аб'яднання "Беларускае добраахвотнае пажарнае таварыства". І да гонару рэдактара, там змяшчаюцца не толькі профільныя для выдання матэрыялы. Займальныя тэксты пазнавальнага характару высвечваюцца ў рубрыках "Старонкі гісторыі", "Захапленні", "Спадчына", "Дасягненні", "Мой родны кут", "Водавочнае-неверагоднае". І ў кожным нумары – беларускамоўныя публікацыі.

Не пагражае нам дэнацыяналізацыя, калі на службу ўратавання мовы, духоўнасці, багатых скарбаў роднага мацерыка прыходзяць асобы з прачулым сэрцам, якія шануюць скарынаўскае слова.

У "Неспадзяваных сустрэчах" Алеся Лягенчанкі многа ад надзвычайных сітуцый. Аўтар мае ўніклівае вока, чуйны слых і аптымістычны характар. У "Краіне сноў" (першая частка кнігі) часта выратоўвае гумар, бо з ім лягчэй пазбаўляцца чалавеку ад сваідх недахопаў. "Вандроўкі ў часе" (другая частка кнігі) эсэістычная. Аповяды пра "нутро" палацаў, замкаў, пра "рэбры" занядбалай гравітацыі зацікаваць радзімазнаўцаў. А. Лягенчанка прамушае чытача ачомацца і пераадолець выпрабаванне: не толькі перайсці з краіны сноў у "горад, які мы ўжо страцілі", але і прыняць адказнасць, як прамаўляе аўтар, за 25 тысяч дзён чалавечага жыцця, вызначаных нам Богам.

*Сяргей Панізьнік.*

*СЛАВУТЫЯ СУАЙЧЫННІКІ*

# Мае сустрэчы з чалавекам-легендай

***"Паздароў, Божа, Вялікага Чалавека нашага!***
***Маці –Беларусі вельмі патрэбны яго моц і здароўе".***
*Ніл Гілевіч, Менск, 23. 09. 94 г.*




***З высакароднай бронзы адліты ў Беларусі барэльеф у гонар вялікага амерыканска-беларускага вучонага Барыса Кіта. Па перыметру барэльефа словы Рыгора Барадуліна: "Крывіцкая думка і ў космас сягнула". Барэльеф выканаў скульптар Уладзімір Мелехаў. Барэльф мае быць устаноўленым у прыватным музеі Анатоля Белага ў Старых Дарогах на тым жа камені, дзе ўстаноўлены барэльеф Васіля Быкава.***

Пра яго напісана каля трохсот артыкулаў, яму прысвечана шмат вершаў (В. Іпатава, Р. Барадулін і інш.), кінафільм "Душа - не падарожніца".

Аб ім напісалі кнігі знакаміты Васіль Быкаў, вядомыя кіты ў "кітазнаўстве" Лідзія Савік, Вольга Іпатава, Аляксей Анішчык, і шмат іншых аўтараў.

Ён - прафесар многіх замежных універсітэтаў, акадэмік Міжнароднай Акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы, віца-прэзідэнт Міжнароднай Акадэміі Навук Еўразіі (Масква), Доктар філасофіі ў галіне матэматыкі ад нямецкага універсітэта ў Рэгенсбургу, заслужаны і ганаровы прафесар амерыканскага універсітэта штата Мэрыленд, ганаровы доктар навук беларускага універсітэта ў Горадні, ганаровы грамадзянін горада Навагрудка.

Ён з'яўляецца адным з вядучых амерыканскіх даследнікаў у галіне ракетных паліваў, які першы ў астранаўтыцы напісаў падручнік па гэтых тэмах.

Яго называюць беларускім выгнаннікам, грамадзянінам свету, чалавекам – легендай.

Хто ён, гэты былы карэліцкі хлопчык, нашчадак сялянскага роду, наш беларускі Ламаносаў?

Гэта - чалавек свету, беларус па паходжанні **Барыс Уладзіміравіч Кіт.**

Нажаль, гэта імя на яго Бацькаўшчыне вядома менш, чым за мяжой. Я таксама мала чаго ведала аб ім яшчэ шэсць гадоў таму, пакуль па волі лёсу не трапіла на жыхарства ў далёкую Аўстралію. Тут, у Сіднэі, у беларускім грамадска-культурным клубе, я пазнаёмілася са шчырымі беларусамі. Я адразу ўключылася ў грамадскую дзейнасць: была выбрана ў дырэктарат клуба, пачала працаваць на беларускім радыё SBS. Старшыня клуба, Міхась Лужынскі, вельмі адукаваны і адданы беларускай справе чалавек, аказаўся былым вучнем Бырыса Уладзіміравіча Кіта па Маладзечанскай адміністратыўна-гандлёвай школе. Там у 1943-44 гг. Барыс Уладзіміравіч працаваў выкладчыкам і дырэктарам.

Міхась Лужынскі шмат расказа мне аб нашым знакамітым суайчынніку, а таксама даў мне пачытаць усе публікацыі аб ім, якія меў сам. А восенню 1999 года, калі я паехала ў Франкфурт, каб наведаць сваю дачку, ён даў мне даручэнне наведаць свайго настаўніка.

Прызнацца, я вельмі хвалявалася перад нашай першай сустрэчай. Не таму, што я ніколі не мела сустрэч са знакамітымі людзьмі . Дзякуючы маім бацькам і сваякам я з маленства сустракалася са многімі вядомымі дзеячамі навукі і культуры, у тым ліку, з Якубам Коласам. А пазней, калі я працавала на пасадзе загадчыцы аддзялення Рэспубліканскага шпіталя інвалідаў Айчыннай вайны, а потым на пасадзе галоўнага дзверанага ўрача Рэспубліканскага Савета прафсаюзаў працоўных абаронай прамысловасці, мне нават давялося некалькі разоў сустракацца і гутарыць з Пятром Міронавічам Машэравым. А вось з чалавекам сусветнага рангу я сустракалася ўпершыню.

Які ён, гэты чалавек - легенда? Ён прадстаўляўся мне нейкім недасягальным гігантам. І вось ён перада мной: добры, малажавы (у свае амаль што 90 гадоў) твар, жвавы позірк маладых вачэй, хуткая паходка, ды ...неверагодная прастата.

Сапраўды, як кажуць, усё вялікае- простае. Барыс Уладзіміравіч аказаўся настолькі гасцінным, што адразу запрасіў мяне, а таксама маю дачку з усёй яе сям'ёй у рэстаран. Ён валодае многімі замежнымі мовамі, і, на зайдрасць многім беларусам на Бацькаўшчыне, прыгожай беларускай мовай у дасканаласці. Ён, як так званая "хадзячая энцыклапедыя", ведае пра ўсё. Ён расказаў нам пра гісторыю наваколля Франкфурта, у прыватнасці, Бад Хомбурга, дзе жылі і тварылі Тургенеў, Дастаеўскі і інш.

Барыс Уладзіміравіч таксама цікавіўся беларускімі справамі ў Аўстраліі і на беларускім радыё "Свабода", якое я наведала напярэдадні ў Празе. Яго светлы розум, прыроднае пачуццё гумару рабілі нашыя размовы цікавымі і карыснымі. Мы рассталіся добрымі сябрамі, у нас завязалася перапіска. Ён прыслаў мне свой юбілейны альбом і некалькі кніжак. А я пасылала яму аўстралійскія календары і сувеніры.

Па прыездзе дадому я выступіла ў беларускім клубе з расказам пра жыццёвы і творчы шлях нашага знакамітага земляка, чытала прысвечаныя яму вершы Вольгі Іпатавай.

У другі мой прыезд у Франкфурт у 2001 годзе Барыс Уладзіміравіч ужо сустракаў мяне. На гэты раз я была зусім падкаваная ў сваіх ведах аб яго жыцці і творчасці. Але ж мне стала вядомым многа чаго новага. У працэсе нашых гутарак высветлілася, што Барыс Уладзіміравіч вельмі ганарыцца сваім амерыканскім грамадзянствам. Таму што, "гнаны бальшавіцкай навалай з Бацькаушчыны",- як гэта пісаў Васіль Быкаў, - "ён блукаў па Еўропе ў пошуках прыстанішча". А знайшоў яго ў Амерыцы, якая першая ацаніла яго талент і дапамагла поўнасцю рэалізаваць свае здольнасці. Але ж яго сэрца заўсёды рупілася пра сваю Маці-Беларусь. Ён заўсёды лічыў сваім абавязкам дапамагаць беларусам, з якімі яму даводзілася сустракацца. Так, ён заснаваў адну з самых вялікіх беларускіх калоній у ЗША (Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі), куды прыцянуў многіх сваіх землякоў-беларусаў з Еўропы.

Наша сяброўства прадаўжалася. Восенню 2003 года мне давялося больш часу праводзіць у кампаніі Барыса Уладзіміравіча, чым у мінулыя гады. І тут высветлілася яго надзвычайная шчодрасць. Ён лічыць за свой абавязак прымаць і апякаць усіх беларусаў і членаў іх сямей, якія наведваюць Франкфурт. Не абмінуў ён сваёй апекай і мяне, калі я мела непрыемнасці праз сямейныя справы маёй дачкі.

У яго франкфурцкай невялічкай кватэры пабывалі многія беларусы з Бацькаўшчыны, у тым ліку і наш знакаміты навуковец Платонаў. Шмат дзён правёў у Франкфурце побач з Барысам Уладзіміравічам наш выгнаннік Васіль Быкаў напрыканцы свайго жыцця.

Барыс Уладзіміравіч бескарысна любіць сваю Беларусь. Жывучы па-спартанску, ён, як высветлілася, усю сваю пенсію, якую атрымлівае з ЗША, траціць на беларускую дзейнасць і дапамогу беларусам. Так, я даведалася ад саміх беларусаў, што ён пасылаў лекі нават іх унукам, калі тыя хварэлі.

Барыс Уладзіміравіч ганарыцца сваімі шматлікімі вучнямі. Ён кажа, што ён перадаваў свае веды ад аднаго пакалення - наступнаму, і гэта з'яўляецца, на яго думку, ягоным найбольшым укладам, як для Беларусі , так і для Амерыкі.

А найбольш ён ганарыцца тым, што нарэшце яго прызналі на Бацькаўшчыне, і ён быў абраны ганаровым прафесарам беларускага універсітэта ў Горадні, а таксама ганаровым грамадзянінам горада Навагрудка, дзе ён у свой час працаваў дырэктарам беларускай гімназіі. Цяпер ён разгарнуў дзейнасць па выпуску кнігі да свайго 95-гадовага юбілею. Адна з яго мар – адкрыццё гуманітарнага універсітэта ў Навагрудку.

Адкуль такая энергія, ясны розум і здольнасці у яго гады?!

На гэтае пытанне я маю сваё меркаванне з пазіцыі ўрача-псіхатэрапеўта. Я лічу, што тут маюць вялікі ўплыў яго пастаянная праца над сабой, кіпучая грамадская дзейнасць і актыўны лад жыцця. Вялікую ролю, на мой погляд, адыгрывае таксама той факт, што амаль што 30 год жыцця Барыса Уладзіміравіча звязаны з Тамарай Казевіч – маладой, прыгожай, высокаадукаванай, таленавітай жанчынай. З ёй звязаны ўвесь яго Франкфурцкі перыяд жыцця. Яна з'яўляецца яго спадарожніцай, сяброўкай і сакратаркай. Можна толькі пазайдросціць ёй, калі бачыш, як кожны дзень пасля 16.00 , дзе бы ні знаходзіўся Барыс Уладзіміравіч, ён, як малады рыцар, спяшаецца на спатканне са сваёй Тамарай. Але галоўным фактарам актыўнага даўгалецця Барыса Уладзіміравіча, лічу я, з'яўляецца яго характар.

Ён сядзеў у польскіх і нямецкіх засценках за сваю беларускую дзейнасць. Ён ледзьве паспеў пазбегнуць ГУЛАГа, у які бы бясспрэчна трапіў, як трапілі многія беларускія патрыёты, калі б не падаўся на Захад. Маючы сусветнае імя, ён многія гады быў невядомым на сваёй Бацькаўшчыне. Але ж ён не затаіў крыўды і злосці, а прадаўжае любіць сваю Беларусь і рабіць дабро людзям. А гэтае дабро бумерангам вяртаецца да яго самаго.

У школьныя гады мае аднакласнікі, каб скараціць маё прозвішча "Лягенчанка", звалі мяне проста "Лягендай". І вось мне пашанцавала ў жыцці сустрэць сапраўднага чалавека–легенду, які аказаўся вельмі простым чалавекам.

Добры твар, жвавыя разумныя вочы і апісаная многімі аўтарамі яго знакамітая кепка, - такі вобраз нашага Вялікага беларуса дагэтуль стаіць перада мной. Калісьці, у час нашай размовы, Барыс Уладзіміравіч прызнаўся мне, што яму нагадалі 110 год жыцця.

Дык доўгага, актыўнага і плённага Вам жыцця на карысць нашай Маці-Беларусі, **дарагі наш Чалавек - Барыс Уладзіміравіч Кіт!**

*Слава Лягенчанка.*
*Сідней, Аўстралія.*
*21.01.2004г.*

# Музейная зала Васіля Быкава ў Старых Дарогах



У Старых Дарогах, у музеі выяўленчага мастацтва, фонд Анатоля Белага, створана першая на Беларусі зала, прысвечаная вялікаму пісьменніку Бацькаўшчыны Васілю Быкаву. У ёй размясцілася звыш 200 экспазіцыйных адзінак. Гэта кнігі пісьменніка з яго асабістай бібліятэкі выдадзеных на розных мовах свету. Чатыры прыжыццёвыя алейныя і графічныя партрэты Васіля Быкава аўтараў Яўгена Ціхановіча і Анатоля Крывенкі. Шмат графічных твораў мастакоў Юрыя Герасіменкі, Уладзіміра Немагая, Георгія Паплаўскага, створаных па матывах аповесцяў пісьменніка. Ёсць малюнкі створаныя рукой самага Васіля Быкава. Гэта дом, дзе ён нарадзіўся, дом, дзе ён жыў, царква, дзе яго хрысцілі і школа, у якой ён вучыўся. У экспазіцыі прадстаўлена шмат асабістых рэчаў пісьменнік гэта яго ручкі, якімі ён пісаў свае творы, запісная кніжка, дыпломы ўзнагародаў, каляндар з асабістага кабінета, якім ён карыстаўся, тэлефонны даведнік Саюза пісьменнікаў Беларусі з асабістымі паметкамі Васіля Уладзіміравіча, тэатральныя афішы спектакляў пастаўленых па яго творах. Вялікую частку экспазіцыі прадстаўляюць фотаздымкі пісьменніка з сваімі сябрамі, калегамі, палітычнымі, грамадскімі і культурніцкімі дзеячамі. Яны адлюстроўваюць яго літаратурную і грамадска-палітычную дзейнасць. Фотаздымкі аформлены тэматычна ў адмысловых стэндах пад шклом, а таксама ў альбом Адзначым, што вялікую частку гэтых экспанатаў перадала ў дар музею жонка Васіля Уладзіміравіча.














Экспазіцыя прысвечаная пісьменніку пастаянна папаўняецца і мы чакаем ад усіх, хто быў знаёмы з пісьменнікам і нешта захоўвае з кніг, фотаздымкаў і іншых рэчаў у сваім архіве, ахвяраваць гэта ў музей дзеля ўшанавання памяці вялікага народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

Наш кантактны тэлефон у Менску 2-35-66-08

***Анатоль Белы.***





## ВЫЙШАЎ ДРУГІ НУМАР ЧАСОПІСА АБ СУЧАСНЫМ БЕЛАРУСКІМ МАСТАЦТВЕ І КУЛЬТУРЫ "PARTISAN", СКІРАВАНАГА НА СТВАРЭННЕ НОВАГА ІМІДЖУ БЕЛАРУСІ

У Менску выйшаў другі нумар часопіса аб сучасным беларускім мастацтве і культуры "pARTisan", заснавальнікам і галоўным рэдактарам якога з'яўляецца мастак Артур Клінаў.

Першы нумар часопіса з'явіўся ў лютым мінулага года. Як мяркуе А. Клінаў, такі часопіс як "pARTisan" не павінен выходзіць часта, бо кожны нумар "з'яўляецца самастойным арт-праектам". "pARTisan" — гэта еўрапейскі праект. Яго найважнейшая задача — стварэнне новага іміджу Беларусі як краіны не толькі Чарнобылю, але і цікавай самабытнай культуры. Выданне фармулюе найноўшыя дактрыны развіцця беларускай культуры, закранае вострыя пытанні і шукае адказы на іх, падкрэсліваюць яго выдаўцы. Матэрыялы часопіса падаюцца па-беларуску і па-англійску.

Як паведаміў БелаПАН А.Клінаў, тэма другога нумара, прэзентацыя якога адбудзецца 20 лютага ў другой палове дня у Беларускім ПЭН-цэнтры, — дэмакратыя і культура, а таксама іх "дастаткова складаныя ўзаемаадносіны".

Дыскусійны блок нумару складаецца з тэкстаў Максіма Жбанкова, Сяргея Дубаўца, Майсея Молатава, Артура Клінава, Лёліка Ушкіна. Апублікаваны таксама інтэрвію з сусветна вядомым інтэлектуалам Томашам Венцлавам і мэтрам сучаснага еўрапейскага мастацтва Лявонам Тарасевічам і інш. матэрыялы.

А. Клінаў адзначыў, што другі нумар часопіса — гэта ўжо поўнакаляровае выданне, якое змяшчае 174 каляровыя і чорна-белыя фотаздымкі.

*Лавінія АРЭШКА,*
*БелаПАН.*

# Памёр Аляксандр Міхальчык



15 лютага на 62-м годзе жыцця пакінуў гэты свет старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі ГА "БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ Аляксандр Міхальчык, шчыры і адданы Беларусі адраджэнец мяжы XX і XXI стагоддзяў.

Адпеты ў Свята-Пакроўскай царкве Горадні Аляксандр Міхальчык быў пахаваны 17 лютага на Гарадзенскіх могілках. На пахаванні прысутнічалі намеснік старшыні БНФ Алесь Міхалевіч, сябры па партыі і руху з Горадні і вобласці.

Труна была пакрыта бел-чырвона-белым сцягам, а духовы гімн беларусаў "Магутны Божа" прагучаў над свежай магілай.

**На здымку:** на жалобным мітынгу прамаўляе Сяргей Мальчык, старшыня Гарадзенскай абласноў арганізацыі БНФ.

# "Срэбны коннік" маладэчанскай зямлі – зямлі беларускай

У мінулую суботу ў будынку Менскага абласнога драматычнага тэатра горада Маладэчна адбылася цудоўная вечарына, прысвечаная выхаду ў свет зборніка вершаў знакамітага паэта не толькі гэтага прыгожага горада, але і даволі вядомага ў межах Беларусі Лявона Цімохіна "Срэбны коннік".

Дзякуючы Лявону Аляксандравічу, у гэты зімовы вечар прыхільнікі яго творчасці змаглі пабачыць і паслухаць не толькі самога паэта, але і шмат вядомых беларускіх майстроў слова. Прысутныя падзяліліся на гры групы: першую складалі тутэйшыя маладэчанскія паэты і аматары паэзіі; прадстаўнікамі другой былі госці з сталіцы нашай дзяржавы; і трэцюю невялічкую суполку стварылі вучні Лявона Цімохіна, якія прыехалі з-за мяжы на гэта свята. З Менска павіншаваць маладэчанца прыехалі высокія госьці: паэты Г. Бураўкін і С. Законнікаў, грамадскі дзеяч А. Вярцінскі, гісторык і праваабаронца Т. Процька, мастак А. Марачкін, публіцыст В. Гроднікаў, рэдактар прыпыненай на некаторы час газеты "Згода" А. Кароль.

Лявон Цімохін – настаўнік гісторыі адной з сярэдніх школ горада Маладэчна, кіраўнік школьнага літаратурнага гуртка "Праменьчык" ды проста неардынарны, адданы сваёй працы і Радзіме чалавек. Цікава, што да гэтага дня ў паэта не было зборніка вершаў, у якім больш-менш грунтоўна змяшчаліся б творы. Яго выдатныя вершы пераходзілі з рук у рукі на нейкіх асобных паперках, перапісваліся, перадрукоўваліся. І вось, нарэшце, з дапамогай сяброў Лявон Аляксандравіч змог выдаць такі цудоўны томік. Прэзентацыя праходзіла пры вельмі ўдалых абставінах: кожны, хто выходзіў да цэнтральнага мікрафона, выказваў сваё бачанне творчасці Лявона Аляксандравіча, чытаў абавязкова ўлюблёныя яму вершы са зборніка "Срэбны коннік". І ўсё гэта праходзіла пад музыку розных часоў і краін, пад акампанімент фартэпіяна ды лірычны голас скрыпкі. Гэтым вечарам успомнілі тых, каго, на жаль, няма ўжо з намі; прывіталі тых, каго параскідаў лёс па ўсяму абшару зямлі; славілі тых, хто будзе працаваць у будучым для Беларусі. Вельмі моцна прагучаў верш Л. Цімохіна "Малітва" пад музыку "Ave Maria", які не пакінуў ніводнага прысутнага абыякавым.

У гэты вечар многіх прысутных, як і мяне, сустрэлі нечаканасці. Да гэтай вечарыны я раней бачыў вершы Лявона Аляксандравіча толькі на беларускай мове. Але здарылася так, што гэты таленавіты чалавек валодае не толькі майстэрствам роднага слова, але і можа пісаць на замежных мовах. Так, яго вучаніца, якая зараз навучаецца ў Маскве і прыехала на гэту сустрэчу, прывезла з сабою верш Цімохіна на рускай мове; былы вучань 5-й школы (у якой выкладае Лявон Аляксандравіч), прыехаў з Германіі, каб падзякаваць настаўніку і паказаць, што талент паэта яшчэ больш багаты: ён прадэкламаваў верш героя вечарыны на нямецкай мове. Сустрэча была прыцягальная і тым, што амаль нічога не было запланавана, адрэпетавана раней – удзельнікі паказвалі вяршыню майстэрства імправізацыі. За што ім вялікі дзякуй!

Зразумела, чытаў свае творы і аўтар: старыя і новыя, смелыя і патрыятычныя, моцныя і неабсяжныя, вобразныя, кранальныя сэрца, адданыя роднаму краю. Лявон Цімохін не любіць гаварыць уголас пра свой узрост. Але раскрыем гэты сакрэт. Усе маладэчанцы віншуюць Лявона Аляксандравіча Цімохіна з юбілеем – 60-годдзем! Мы зычым яму моцнага здароўя, магутнага таленту, неўміручай веры, паўсядзённай надзеі, вечнага кахання і неабмежаванай любові да сваёй Радзімы! Чакаем ад Вас, Лявон Аляксандравіч, новых вершаў і новых сустрэч! Мы заўсёды побач з Вамі. Жыве Беларусь!

*Юрась Бусел,*
*маладэчанец.*

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Цярохін Уладзімір – 10000 р., г. Менск.
2. Дзеружынскі Аўяр'ян – 1 дол., г. Менск.
3. Пятрэнка – 5000 р., г. Менск.
4. Юшкевіч А.А. – 8000 р. вёска Галавачы, Гарадзен. р-н.
5. Студэнты Бел. дзярж. ун-та транспарту – 10000 – г. Гомель.
6. Долбік А. С. - 5000 р., вёска Жуковічы, Карэліцкі р-н.
7. Пашук В. В. - 5000 р., Смаргонь.
8. Казлоўская І. І. – 1700 р., г. Менск.
9. Чэчат Алесь – 5000 р., г. Менск.
10. Рада БНР – 100 дол. ЗША.
11. Івонка Сурвіла – 50 дол. ЗША.
12. Віталь Кажан – 50 дол. ЗША.
13. Хрэноўскі Анатоль – 50 канад. дол.
14. Бялевіч Леў Міканавіч – 10000 р., г. Полацк, Віцебск. вобл.

Таварыства беларускай мовы пры правядзенні мерапрыемстваў у абарону беларускай мовы нясе значныя матэрыяльныя выдаткі. Просім па меры магчымасці падтрымаць Таварыства.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**Касір**

Пеня
Разам

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

Квітанцыя

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**Касір** **М.П.**

Пеня
Разам

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**ПРАЦЯГВАЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч, Сяржук Кручкоў.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца***
***з 4 па 12 лютага ў 18.00***
***у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

**26 лютага, 18.00.** Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска. **Грыцкевіч А.П.**

**27 лютага, 18.00.** Гісторыя ўзнікнення і развіцця беларускіх партый і рухаў у Менску на працягу XX стагоддзя. **Скалабан В. У.**

**28 лютага, 18.00.** Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі краіны? **Дзіцэвіч Л. М.**

**3 сакавіка, 18.00.** Менск у творах беларускіх пісьменнікаў. **Арлоў У.**

**4 сакавіка, 18.00.** Як стварыць суполку ТБМ? **Дзіцэвіч Л. М.**

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.**

## *Адказы на крыжаванку са ст. 12.*

Адказы на крыжаванку са ст. 12.

**Па гарызанталях:** 5.Каліва. 9.Метранпаж. 10.Пума. 11.Анапест. 13.Палісандр. 14.Стэрэаметрыя. 16.Ліштва. 18.Недастатковасць. 20.Серп. 23.Скалалаз. 24.Фартуна. 27.Аспірант. 28.Аса. 31.Зонд. 32.Гіпербала. 33.Старадум. 34.Шкіпер. 35.Акын.

**Па вертыкалях:** 1.Веласіпедыст. 2.Панства. 3.Эпонж. 4.Ажур. 5.Канцэнтрацыя. 6.Восем. 7.Вугор. 8.Завея. 12.Прэста. 14.Спадарожнік. 15.Траста. 17.Педантызм. 19.Цэнтр. 21.Палітура. 22.Эстакада. 25.Апафеоз. 26.Калібр. 29.Абза. 30. Баян.

**Кантрольнае слова:** Эсмеральда.



С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 52. ЗАЧАРАВАНЫ
**(М. Гусоўскі, паэма, працяг.)**

#### Заклік

Не, з гэтай не ўжыцца нематой.
Не адступае смага ні на волас.
Ты мне патрэбны,
рымскіх плошчаў голас,
З тваіх чаканных гукаў чарадой.

Бо не пачуюць наш літоўскі дух
У закавыках мовы незнаёмай.
А ты – маланка слова Цыцэрона
І Цэзара непераможны рух.

Нам дакрычацца – Божа, барані.
А ты пераканаеш і бязверцаў.
Нясе надзею да пакутных сэрцаў
Сам Усявышні стрэламі тваімі.

Ля ценяў Калізеевых муроў
З табой не апануе грудзі немач.
Хай укладзецца
Бацькаўшчыны веліч
У гучныя гекзаметры складоў.

Чаго наш шоргат ні перацярпеў...
Меў на яго надзеі
свет хрышчоны.
Я бачу не ў мантыі вучонай –
У паляўнічай вопратцы цябе.

Пачую, як асвеціш гушчары,
Натхніш, благаславіўшы:
"Scripta manent!"
Хай упырыгожыць
памяці пергамент
Асілак-зубар, сябар мой стары.

#### Спрэчка

Ранішні згаснуў паціху
бадзёры імпэт.
Утаймаваўся пад вечар
вялікі наш клопат.
Трохі цяпер памаўчы,
знакаміты паэт.
Нешта ўсё ж адабраў
у цябе Вечны Горад.

Вось толькі раз глянуў
думкаю ўдалячынь –
І ахапіла душу
неадступная горыч.
Чуеш – шчымівая песня
былая гучыць,
Постаць бывалая
зноў не да часу сваволіць.

Мала што прыйдзе,
учэпіцца ў галаву,
Правільны зрок замуціўшы
дурной павалокай.
Гэта не тое зусім,
што адолець дрыгву –
Выбрацца з ліпкай стыхіі
завілістых крокаў.

Побач іншыя даўно
кукаванні зязюль.
А не абвыкнуць і зараз
да хвалі іх хіжай.
Прыяцель даўні,
напэўна сказаў бы мне зубр:
- Не, паляўнічы ты, дружа,
на полі на іншым.

Дык паспрачайся,
агулам аблаяны спрыт,
З дробнымі кулямі –
што яна за страляніна?
Гэты адзін
у лацінскіх радках манускрыпт
З лішкам харошым
адкупіць усе нашы віны.

#### Вядзьмар

Ладзіў цені рабыя
Вакол ды каля,
Каб выходзіла гладка.
І яго б утапілі,
Прызнайся ва ўсім
Ён з самога пачатку.
Хрысціянскі ліхтар
Ашуканцам ліхім
Крывадушна апеты.
Быў ён той жа вядзьмар
І пясняр-чараўнік
Свайго дзіўнага свету.
Не было той травы,
Што ў руках бы яго
Не наваджвала дзіва.
Ведаў тайны дрыгвы
І сакрэты дрымучыя
Пушчы маўклівай.
Мог распытваць дым
Ад кастра – як гадаў ён
З цікавай паперы.
Снедаў пахам грыбным
І туманам амшараў
Падоўгу вячэраў.
Уначы над ракой
Салаўінаю песняй
Заслухваўся чуйна.
Кветкаю палявой
На світанку жагнаўся
Кашчунна.
Хват да каверзных спраў,
Хмары сцягваў цяжкія
З жудасным громам.
Птушак перакладаў
У паганай карчме
Мужыкам незнаёмым.

#### Земля зачараваная

Ці вусны сцяў асобы крыж,
Ці соннаю смугой забраная –
Уголас не загаворыш,
Зямля мая зачараваная.

Пачую, хіба, грозны рык –
Абходзіць лес
тутэйшым княжычам
Тваіх прастораў вартаўнік,
Зялёных пушчаў волат казачны.

Бярозка дубу не раўня.
Чыёю станецца абраніцай?
Яшчэ зямляк не ачуняў
Ад варажбы вясенняй раніцы.

Ідзе і слаба помніць – скуль.
І над раллёю, асвячонаю
Званочкамі вясны, дасюль
З ім птушаняты валачобныя.

Завуць маліцца характву
Замовамі напаўнябеснымі –
Аж непакоіць галаву
Чысцюткімі да хмелю песнямі.

#### Зялёны гук

Стараўся, неаслабны працаўнік.
Лунаў паўсюдна
вольны яго спеў.
Ці не галоўны быў ён ерэтык,
Зялёны гук зямлі, сам па сабе.

Хто мог бы сцішыць
гучны гэты лёс,
Калі ў натхненні самазабыцця
Ні кроплі не пазычыў у нябёс
Звычайны непрыкметны
цуд жыцця?
Увесь прастор навокал падаў ніц
Да блазна хуткіх
легкакрылых ног.
І сіл не меў арган, каб перабіць
Неўтаймаваны паляўнічы рог.

Застаўся кожнай клятве ён чужы,
А пакідаў магутныя сляды.
Як толькі, гіцаль,
смеў узварушыць
Напаўсвятыя кніжныя лісты?

Не ведаў, поўны смагаю дурной,
Ні месца тлуму,
ні прыстойны час.
Не прызнаваў нікога над сабой
І пасміхаўся дзёрзка ў адказ.

#### Лес

Калі ўваходзіш у дрымучы храм,
Другой жадаеш
незвычайнай мовы,
Каб не перашкаджалі мухі-словы
Ў леса прагна ўслухвацца арган.

Не падстаўляй плячо
пад цяжкі груз.
Кашчунным будзе
подых недалужны.
Злучыў зямлю і неба непарушна
Магутны крон з карэннямі саюз.

Як дрэвы – сокаў патаемны рух,
Запоўніў назаўсёды грудзі нашы,
Турботы ўсе
нікчэмныя суняўшы,
Маўклівых пушчаў
пазачасны дух.

І нават без сяброў-лесавікоў
У чорта мы не будзем у пакоры.
Лясныя таямнічыя прасторы
Яшчэ народзяць нам чараўнікоў.

Далёка за блакітныя палі
Паблажліва праводзяць і аблокі
Лясы. нашы вялікія вытокі,
Каштоўнейшыя скарбы на зямлі.

#### Зубр

Падышло моцным пахам
балотнай травы,
Ў вочы кінула звонкім
мяцелістым снегам.
Закранула знянацку
карэньчык жывы,
Растрывожыла сэрца
няўтольнае рэха.

Гэта, пэўна, яго
не ставала ўвесь дзень,
Як празрыстага між
надакучлівай муці.
Доўгай думкі ўзняўся
вялікі камель –
Не бывае ад волатаў
дробных пачуццяў.

Хтосьці ўспомніў тады
мімаходам аб ім,
Не апошняй часцінцы
сусветнага тлуму.
І ў імені толькі кароткім адным
Нешта дужа сваё
гэтак чыста гукнула.

Перад целам цяжкім
расступаўся гушчар –
Не інакш уладар
яго крочыў наследны.



Ён замежных
паноў-землякоў замяшчаў,
Іх цярпліва вартуючы
кут запаветны.

Як філосаф, ля дрэў
задуменна кружыў,
У такой, цвёрда згоднай
з ваколлем патолі.
Не хаваў пад загрыўкам
драпежнай душы,
Шляху іншага
не пераходзіў ніколі.

І, аддадны суцэльна
таму характву,
Адклікаўся ў ім жа
тутэйшы насельнік.
Для прыстанку адзінага ў свеце
– Літву
Не знарок і абраў ён,
вялікі сумленнік.

#### Вітаўт

Сярод усіх свядомасці малітваў
Што абярэш, Айчыны птушаня,
Замест адной легенды – Вітаўт?
Няма бо ў славы іншага імя.

Літву ягонай смерцю пакарала –
Укінула ў свару-мітульгінь
Не выкрасліш ніколі ўжо
з аналаў,
Што мы былі ля самых,
ля вяршынь.

Грунвальдавым
славутым тройчы следам
Ішлі ў паход "Пагоні" ваяры.
Ён з годнасцю
з дакучлівым суседам
Атак рашучай моваі гаварыў.

Калі мячы натоліш
злою кроўю –
Не абрастуць зняможанай іржой.
Калі не сутаймуюцца героі,
Дык і ўспаміны будуць за душой.

Каб толькі не пустыя летуценні,
Калі дарэмна развіднее дзень.
Знікае сумна
пад звычайным ценем
Неверагодны колішні прамень.

#### Гарэзы

Справядлівыя прыйдуць
адноічы нябесныя суддзі.
Не адных наглыталіся
прышлых крывавых віроў.
І ў нас жвір таптаі
крутыя ваенныя людзі,
Толькі не абаронцы
ад вострых чужых кіпцюроў.

Набягаў усутыч утрапёна,
як звер, брат на брата.
У паход баявы
гучна благаслаўлялі званы.
І збіваліся зграямі
хцівыя дзеці ўлады
На вачах суайчыннікаў –
мірных руплівцаў зямлі.

А калісьці зусім звар'яцелі
дзяржаўныя шалі.
І махлярылі розныя госці –
цары, каралі...
На спакусы ахвочыя,
доўга паны пазіралі,
Як сварылі суседзі іх
да недарэчнай крыві.

Пад абедню маскоўскую
і пад лацінскую месу
Моцна павесялілі самога
пры тым сатану.
Парастрэлі калыску жыцця,
раскідалі гарэзы,
Ды зямную разруху пакінулі,
брату былому свайму.

#### Роў

Даўно ўжо дрэвам журботным
Наўкола не спіцца,
І шолах скупы не адну
Суцяшае ўдаву.
Бярозавым ты спавядаешся
Зрання святліцам,
Зямля на мяжы,
У крывавым агністым раву.

Якія палеглі
У ціхія травы галовы!
Твой волат, паранены зноў,
Яшчэ толькі хрыпеў...
Трывожнага і навальнічнага
Свету Хрыстова
Барвяны рубец працягнуўся
Якраз па табе.

Хто дзеці твас,
Як не горкія гора-істоты?
Спакою няма і ў анёлаў
Ад нашых грахоў.
Страшэнная люства скаплівага
Злая нязгода
Шукае на небе прыкрыцця
З абодвух бакоў.

Увесь скалануўся прастор,
Як дракон звар'яцелы,
І пылу рудога
Паўднёвая рушыць сцяна.
Няйначай, як з пекла
Ідуць па душу і па цела
На цмокавых конях
да хат нашых.
Гэта – вайна...

Для нас нараджаюцца,
Пэўна, часіны ліхія.
Які вызваліцель
Ад зброі нам дасць перадых?
Мой край, ты – загадка
Для сонечнай мірнай стыхіі.
Ёй не ачуняць
Ад балючых апёкаў тваіх.

*(Працяг у наступным нумары.)*





*(Праця. Пачатак у папяр. нумары.)*

Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

***Касцюшка.*** Выдатна! Цяпер мне зразумела, чаму трохтысячны корпус генерала Цыцыянава адышоў ад Горадні пад Нясвіж.

***Ясінскі.*** Нягледзячы на асобныя ўдачы, становішча расійскіх войскаў, як мне здаецца, пагоршылася. На ўсім абшары ад Вільні да Менска дзейнічаюць нашы войскі і аддзелы паўстанцаў, генерал Серакоўскі і Біляк літаральна нявіслі над захопленым расейцамі Слонімам. У гэты час, як мы абмяркоўваем нашы справы, палкоўнік Грабоўскі прабіваецца да Менска. Аддзел рухаецца па начах, днямі хаваецца ў лясах. Да яго па дарозе далучаюцца сяляне-касінеры і дробная шляхта. Калі паўстанцы перайшлі мяжу Менскай губерні, іх было ўжо 5 тысяч. І калі б не Данскі полк, што падышоў на падмогу Менску, паўстанцы ўзялі б яго. Рэйд па тылах ворага прадоўжыцца на Койданава, Пухавічы, Свіслач і далей на Бабруйск.

***Касцюшка.*** Вельмі правільная тактыка! Рэйды! Менавіта рэйды!

***Ясінскі.*** Паспяхова б'юцца палкі і аддзелы Кіркора, Бараноўскага, генералаў Хлявінскага і Віельгорскага. Годную сутычку з аддзелам Цыцыянава вытрымала конніца палкоўніка Ахматовіча. Бываюць і няўдачы — барон Бенігсен разбіў пад мястэчкам Ліпнішкі таго ж генерала Хлявінскага... За мяжу, што Расія правяла па нашай зямлі, вельмі непакоіцца галоўнакамандуючы Рапнін, таму і сцягвае да яе сваё войска. І ў лоб яго там не возьмеш. І я лічу і паплечнікі мае падказваюць, хітрыць нам трэба, а не па-расейску — сцяна на сцяну...

***Касцюшка.*** Што вы маеце на ўвазе?

***Ясінскі.*** Вы трымайце Кракаў, Варшаву, беражыце Горадню і Бярэсце, а мы перанясем барацьбу ў "расійскі кардон", як яны называюць адхопленыя ад Княства землі. Думаю я ~~зараз з сябрамі-камандзірамі~~ аб тэрміновай арганізацыі спецыяльных конных дыверсійных аддзелаў кавалерыстаў па 300 у кожным. Уварваўшыся ў "расійскі кардон", пранясемся па залогах, пасячэм, на каго трапім, пасеем паніку і неразбярыху, а за ноч перадыслакуемся ў іншы раён, да іншага залогі ці фартэцы. І сілы варожыя на сябе адцягнем, і перапалох пасеем, а сялян і шляхту на барацьбу падымем, страты свае папоўнім. А можна і карусель арганізаваць ды кругамі пахадзіць. Ды так закружыць ім галовы, каб яны, прашу прабачыць, і днём і ноччу бляваць пачалі ад такой кругаверці.

***Касцюшка.*** Малайчына! Ай да малайчына, палкоўнік. Вы апярэдзілі мае меркаванні аб неабходнасці рэйдаў па тылах непрыяцеля, калі самі дадумаліся і паплечнікаў сарыентавалі на тыя меры барацьбы, якіх вымагае парадак рэчаў, і які на ўвесь край наш павінны быць распаўсюджаны.

***Ясінскі.*** Калі па праўдзе, то ці не першым скарыстаўся з такой магчымасці паганяць маскалюшак сябра Найвышэйшай рады Вялікага княства шаноўны Міхал Калеафас Агінскі. Менавіта ён па дамоўленасці правёў першы выведвальна-дыверсійны рэйд у кірунку Менска. Але ён няхай сам і даложыць...

***Калантай.*** Просім, Міхал Клеафас!...

***Агінскі.*** Была справа, хоць і не ўсё ўдалося, як хацелася. Вораг наш таксама не лыкам шыты. 12 чэрвеня таемна выйшаўшы з-пад Вільні начале 500-асабовага адзела (200 коннікаў пад зверхнасцю маёра Корсака і 300 маіх стральцоў), накіраваўся я пад Валожын. Разбіў там расійскую залогу, захапіў значныя запасы вайсковай амуніцыі, харчу і зброі да сходу рушыў на Івянец. Там абвясціў свой зварот да жыхароў Менскага ваяводства. Спасаўся на тое, што звяртаюся ад імя мужыцкага генерала Ясінскага, заклікаў далучыцца да паўстанцаў, каб вярнуць Айчыне свабоду і незалежнасць ад акупантаў. Дайшла, відаць, мая адозва і да Менскага губернатара. Ён і паслаў мне насустрач корпус генерала Кнорынга і полк генерала Зубава. Прыхапілі яны мой аддзел пад Вішневам. Пацярпеў паразу. Дык і хваліцца нечым. Згубіў шмат ваяроў ды каштоўнасцяў і нават свае паперы. Пад Крэвам злучыўся з войскам Ясінскага. Цяпер збіраю сілы на новы маршрут. Вельмі ж занепакоены нашымі рэйдамі князь Рапнін.

***Касцюшка.*** Панове, для тых, хто не ведае... Я разбіраўся з гэтым выпадкам і, нягледзячы на сумны фінал выправы аддзела Міхала Клеафаса Агінскага, усё ж адзначыў і сёння адзначу яе вартасць і карысць: вораг занепакоены, ён траціць час і сілы на пошук лятучых конных аддзелаў, у рэшце ён панікуе і гэта немалаважна ў нашых умовах, калі вайна ідзе на шырокіх абшарах дзяржавы двух народаў.

***Агінскі.*** Адзінаю ўцехаю за маю няўдачу з узяццем Менска была, бадай што, песня, пачутая ад касінераў. *(Цытуе).*

Ці ўжо мы ўсе сабакі?
Гаспадары - не бурлакі.
За што маем крыўду знаці?
За што церпіць наша маці?
Прадаваймо аўцы, волы,
Жыта з свірна ды ўсе долы.
Няхай ксёндз нас пасвянцае.
Няхай Бог нам памагае!
Бывай здарова, Грыпіна!
Параска! Мая дзяўчына!
Ад вас цяпер ад'язджаем,
Да Касцюшкі ўсе прыстаем.
Калі назад павернемся,
Тады з вамі ўсціснемся.
Вольнасць для нас паны даюць
І за людзей нас прызнаюць.

***Калантай.*** Такія словы дарагога варты, дружа!

***Агінскі*** *(з захапленнем).* А мелодыя! Далібог, я б такую стварыць не здолеў!

***Калантай.*** Не трэба лішняй сціпласці, музыка! І яшчэ некалькі слоў, але аб іншым. Скажу шчыра, мяне непакояць якабінскія замашкі нашага паплечніка Якуба Ясінскага. Каб не нарабілі яны шкоды нашаму паўстанню, хоць і магнатаў асаджаю, якія хацелі б мірам дамовіцца з акупантам. Баюся і сепаратызму рэвалюцыйнага руху ў Княстве. Гэта можа вельмі пашкодзіць агульнай справе вызвалення.

***Ясінскі.*** Якабінцам, бадай што, застануся, а сепаратызм наш усур'ёз не ўспрымайце. Ёсць сілы, якія б хацелі нас пасварыць. І ў нашых варунках гэта натуральная справа. А народ наш, рада наша, усе дэпутацыі, важары аддзелаў і камандзіры палкоў, усе знаходзяцца пад кіраўніцтвам вышэйшага начальніка Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі і нікога іншага. У гэтым я клянуся гонарам.

***Калантай.*** Ну і дзякуй Богу. На пасяджэнні Найвышэйшай нацыянальнай Рады цяпер не давядзецца на нявартае час губляць, бо кожная хвіліна ў вырашальныя дні дарагога варта і ўжыта павінна быць у славу, а не на ганьбу нашых народаў. На гэтым, бадай што, і скончым. Дзякуй вам, Рыцары свабоды!...

*Усе ўстаюць з крыслаў.*
*Сцэна паволі зацямняецца.*

### XII

*Кацярына II у роздуме ходзіць па пакоі. Пастарэла, ацяжалела, настрой у яе не з лепшых. Уваходзіць Цырымонімайстар.*

***Цырымонімайстар*** *(нясмела).* Ваша вялікасць, з аўдыенцыяй...

***Кацярына II*** *(раздражнёна).* Нікога не хачу бачыць!..

***Цырымонімайстар.*** Царыца-матухна, прашу даравацъ велікадушна – віцэ-канцлер Остарман...

***Кацярына II.*** Я не памятаю, каб за апошнія гады ён прынёс мне нешта радаснае. Адны пераказы рапартаў бяздарных генералаў... Паражэнні, акружэнні, рэйды шышоў у нашы кардоны ды бунты чэрні, што ўз'ядналася са шляхтай, як супраць нас, так і супраць сваіх магнатаў, як у Княстве, так і ў Каралеўстве. Французская пошасць пераваліла нашы кардоны і коціцца да межаў Расіі...

***Цырымонімайстар.*** Ваша імператарская вялікасць, віца-канцлер увесь зіхаціць!

***Кацярына II.*** Зіхаціць, кажаш?..

***Цырымонімайстар.*** Як залаты шылінг!..

***Кацярына II*** *(зацікаўлена).* Кліч. Сама гляну...

*Цырымонімайстар выходзіцъ, Остарман уваходзіць, апускаецца на калені, тройчы хрысціцца.*

***Остарман.*** Царыца нябесная і царыца расійская! Ён паланёны!..

***Кацярына II.*** Спадзяюся, на гэты раз не камандуючы Рапнін ці генерал-аншэф Сувораў...

***Остарман.*** Паранены ў бядро і галаву, паланёны сам зладзей Касцюшка, забіты Якуб Ясінскі.

***Кацярына II.*** Дзе зараз завадатар смуты?!

***Остарман.*** У дарозе да Пецярбурга, як між іншым, і генерал-аншэф Сувораў з рапартам вашай вялікасці аб бліскучай перамозе.

***Кацярына II*** *(радасна).* Дык устаньце ж вы нарэшце з каленяў і павіншуйце імператрыцу!

***Остарман*** *(устаючы з падлогі).* Ад усёй душы і сэрца віншую вашу манаршую вялікасць!..

***Кацярына II.*** Ганаровага грамадзяніна Злучаных Штатаў Амерыкі і Францыі генерал-лейтэнанта Андрэя Тадэвуша Банавентуру Касцюшку найперш вылечыць, каб у навуку былой Рэчы Паспалітай двух народаў, Францыі і тым жа Штатам павесіць на Сянацкай плошчы прынародна. Генерал-пракурору Самойлаву пад асабістую адказнасць трымаць злачынцу ў Петрапаўлаўскай цытадэлі і да павешання здолець выпатрашыць завадатара паўстання і вайны з намі настолькі, каб мы ведалі пра яго асабіста і паўстанне ўсё да драбніцы. З сённяшняга дня Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае іменаваць толькі Белай Руссю, а народ яе беларусамі, чым на вякі прывяжам яе да Расіі. За Жамойціяй і жамойтамі няхай сабе застанецца назва Літва, ліцвіны, літувісы. З Каралеўствам польскім разбярэмся пазней. І яшчэ, замірыць Белую Русь вайсковай сілай немагчыма. Гэту місію мы ўскладзем на рускага чыноўніка, рускага папа і рускага настаўніка. Менавіта яны адымуць у беларусаў не толькі іх мову, але і самую памяць пра саміх сябе. У свой час гэта, на жаль, не ўдалося зрабіць ні цару Аляксею Міхайлавічу, ні нават Пятру Вялікаму.

***Остарман*** *(ашаломлена).* Разумею, усё разумею, вялікая імператрыца!

***Кацярына II.*** Тады за справу, віцэ-канцлер!... І пакліч цырымонімайстра.

***Остарман.*** Слухаю! Слухаю, ваша імператарская вялікасць. *(Адыходзіць да дзвярэй, спіною адчыняе іх і знікае.)*

*Уваходзіць Цырымонімайстар.*

***Кацярына II.*** Два келіхі майго любімага віна, Цырымонімайстар...

*Цырымонімайстар кланяецца і выходзіць. Кацярына II прыхарошваецца каля люстра, кранае маршчыны на твары. Цырымонімайстар прыносіць два келіхі віна на залатым падносе.*

*Кацярына II ідзе яму насустрач, бярэ келіх.*

Шаноўны Цырымонімайстар, ты трыццаць гадоў быў сведкаю маіх радасцяў і смутку з нагоды гэтай клятай вайны, што нарэшце скончылася. Вазьмі келіх... Вып'ем за перамогу.

***Цырымонімайстар*** *(разгублена).* Як можна... мне з вашай манаршай вялікасцю...

***Кацярына II.*** За перамогу .

***Цырымонімайстар*** *(асмялеўшы, чокаецца з бакалам імператрыцы).* За здароўе гасударыні! *(Выпівае віно да донца.)*

***Кацярына II.*** Дзякуй... Яго мне якраз і не хапае. *(Прыгубляе крышку віна і ставіць келіх на паднос.)* Сёння нікога больш не хачу бачыць... Сёння буду толькі сама з сабою.

*Цырымонімайстар ставіць на паднос свой парожні келіх і выходзіць.*
*Сцэна зацямняецца.*

### XIII

*Даволі прасторная вязніца з адзіным невялічкім закратаваным акном. Каля яго стаіць спінаю да ўваходных дзвярэй вязень у турэмнай вопратцы, абапёршыся на мыліцу. Галава яго перавязана стужкаю не першай свежасці. Каля глухой сцяны вязніцы – ложак, засцелены шэрай коўдрай. У канцы ложка – невялікі стол і зэдлік, прыкаваныя да падлогі. Адчыняюцца акаваныя жалезам дзверы, уваходзіць генерал-пракурор Самойлаў. Вязень прадаўжае глядзець у акенца.*

***Самойлаў.*** Добрага дня пану вязню.

*Вязень паварочваецца. Гэта Касцюшка.*

***Касцюшка.*** Дзякуй на добрым слове пану пракурору.

***Самойлаў*** *(міралюбна ўдакладняе).* Проша пана – генерал – пракурору ваш дзякуй.

***Касцюшка.*** Пшапрашам пана генерал-пракурора. *(Зноў глядзіць у акенца.)*

***Самойлаў.*** Генерал-лейтэнант Касцюшка нечым заклапочаны ці засмучоны?

***Касцюшка*** *(кульгаючы ад ложка).* Усведамленнем таго, што нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку.

***Самойлаў.*** А калі б такая магчымасць была?

***Касцюшка.*** У спрыяльных умовах увайшоў бы, не пытаючыся пра глыбіню...

***Самойлаў.*** У вязня-смертніка ёсць нейкія спадзевы?

***Касцюшка.*** Усё цячэ, усё змяняецца, як ваша Нява – то шэрая і пагрозлівая пад нізкімі аблокамі, то срэбная і прыветная пад промнямі сонца. Аднак я змаўкаю, пакуль з мяне не здымуць аковы.

***Самойлаў.*** Сядайце на ложак і дайце мне рукі.

*Касцюшка садзіцца на ложак, падымае рукі, скаваныя ланцугом. Самойлаў адмыкае замок, ланцугі падаюць на падлогу.*

Прабачце, ногі закаваны... навечна.

***Касцюшка*** *(разміна ючы рукі).* Вы так думаеце?

***Самойлаў.*** Я не першы год наведваю дзяржаўных злачынцаў кшталту Ямелькі Пугачова.

***Касцюшка.*** Даруйце, але параўнанне, мякка кажучы, не карэктнае. Ямелька падняў бунт казакоў. Я ж падняў рэвалюцыю ў дзвюх дзяржавах супраць дзяржавы-агрэсара, дзяржавы-акупанта за волю ды незалежнасць трох народаў – палякаў, ліцвінаў і жамойтаў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

